

**Тураўскі хор—адзін з лепшых у рэспубліцы.** На здымку: **выступленне хора ў Мінску.**
Фото А. Дзітлава.



Масква. Дзяржаўны універсітэт імя Ламаносава. Група студэнтаў 1-га курса біёлага-глебавага факультэта, выпускнікоў беларускіх школ (злева направа) калгаснік са Шклоўшчыны Н. Варанкоў, віцеблянін В. Капылоў і бабруйчанка Л. Крэмнёва.

Фото К. Нікалаева.




**На Мінскім шарыкападшыпнікавым заводзе першынство ў спаборніцтве заваяваў В. Багданаў. Ён працуе ў лік 1958 года.** На здымку: **В. Багданаў.**

Фота А. Дзітлава.



# ДРУГІ УСЕСАЮЗНЫ З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ

**У сталіцы нашай Радзімы — Маскве ў снежні праходзіў Другі Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў. Празаікі, паэты, драматургі, прадстаўнікі ўсіх жанраў горача, па-гаспадарску абмяркоўвалі пытанні сваёй творчай дзейнасці. Увесь савецкі народ з неаслабнай увагай сачыў за работай з'езда, бо справы нашых пісьменнікаў вельмі блізкія рабочаму, калгасніку, інжынеру, настаўніку. Кожны савецкі чалавек чакае ад сваіх пісьменнікаў новых твораў, якія-б яшчэ больш глыбока і поўна адлюстроўвалі багатае гераізмам, вялікімі справамі жыццё савецкага народа, яго барацьбу за мір.**

**Усесаюзны з'езд пісьменнікаў віталі піянеры, навучэнцы працоўных рэзерваў, прадстаўнікі Савецкай Арміі. У адрас з'езда кожны дзень паступалі прывітанні ад працоўных Савецкага Саюза.**

Уверсе на здымку: **піянеры вітаюць з'езд пісьменнікаў.**

Унізе злева направа: **дэлегаты з'езда А. Суркоў, М. Шолахаў і В. Катаеў.**

Фота В. Савасцянава і В. Егорава. (Фотахроніка ТАСС.)



Казімір Сямёнавіч Недабольскі нарадзіўся яшчэ ў мінулым стагоддзі. Рэвалюцыя 1905 года застала яго ў Пецярбургу, у флоце. Казімір Сямёнавіч, як і многія матросы рускага флоту, выступіў на баку рабочых. Цяпер Казімір Сямёнавіч жыве ў калгасе «Комунар» Любчанскага раёна. Часта моладзь, піянеры просяць яго расказаць пра тыя далёкія часіны. На здымку: Казімір Сямёнавіч Недабольскі сярод піянераў калгаса.

Фото Р. Каралёва.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 1(22).

Студзень.

1955.

# Год вялікіх здзяйсненняў

Мінуў 1954 год.

Аглядаешся назад і з задавальненнем думаеш: які слаўны гэта быў год! Многа радасці, многа новых працоўных перамог прынёс ён совецкім людзям. Цяжка нават у думках ахапіць тыя вялікія перамены, якія адбываюцца кожны дзень у нашай краіне. Усё бліжэйшай становіцца наша запаветная мара — комунізм.

Мінулы год мы з поўным правам можам назваць годам вялікіх здзяйсненняў. Усюды, у кожным кутку нашай неабсяжнай Радзімы, кіпела натхнёная праца совецкіх людзей. Колькі мы пабудавалі, як узбагацілі сваю краіну! Новыя электрастанцыі, заводы, МТС, новыя кварталы жылых дамоў, магазіны, скверы... Тысячы іх паўстала за год. І ўсё гэта для нас з табою, таварыш, для нашых дзяцей! Наша родная Комуністычная партыя і совецкі ўрад усё робяць для таго, каб узняць дабрабыт народа.

Гулам трактараў і задорнымі песнямі моладзі абудзіліся цаліныя і абложныя землі Казахстана і Сібіры. Дзесяткі тысяч комсамольцаў горача адгукнуліся на заклік партыі і паехалі на асваенне някранутых аблогаў. Сярод іх — пасланцы комсамола Беларусі. Добра працуюць нашы землякі на далёкай казахскай зямлі. Мільёны пудоў залацістай пшаніцы — такі быў першы падарунак сваёй дзяржаве ад юных пасланцоў народа.

Весткі аб выдатных поспехах ідуць не толькі з цаліных зямель. Моладзь рэспублікі натхнёна выконвае рашэнні вераснёўскага Пленума ЦК нашай партыі. Хлебаробы, жывёлаводы, ільнаводы змагаюцца за круты ўздым сельскай гаспадаркі. Сотні спецыялістаў пайшлі працаваць у калгасы, машынна-трактарныя станцыі, соўгасы. Зараз, калі падсумаваны вынікі сельскагаспадарчага года, відаць, якіх выдатных поспехаў дабіліся беларускія хлебаробы. Намнога вырас лік калгасаў-мільянераў, падцягнуліся адстаючыя калгасы. Сотні комсамольцаў пайшлі працаваць на жывёлагадоўчыя фермы, другія сталі вядомымі ільнаводамі і агароднікамі. Вырасла вага працадня, багацейшымі сталі калгасы. Многія маладыя хлебаробы і жывёлаводы былі ўдзельнікамі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве.

Новымі творчымі перамогамі ўслаўляюць сваю Радзіму маладыя рабочыя фабрык і заводаў. Тысячы наватараў і перадавікоў сваёй самаадданай працай уносяць вялікі ўклад у датэрмінове выкананне пятай пяцігодкі.

З кожным годам наша краіна становіцца ўсё больш магутнай. Совецкі народ не забывае аб прошуках падпальшчыкаў новай вайны і мацуе сваю абароназдольнасць. Але ён супраць вайны. Канец мінулага года азнаменаваўся такой важнейшай падзеяй, як Нарада еўрапейскіх краін па забеспячэнню міру і бяспекі ў Еўропе. Нарада еўрапейскіх краін заявіла аб сваім няўхільным жаданні захаваць мір, стварыць калектыўную бяспеку ў Еўропе, каб не дапусціць развязвання новай вайны.

Совецкі народ з вялікай радасцю і задавальненнем успрыняў рашэнні Нарады еўрапейскіх краін. Ён адзінадушна заявіў:

— Нам не патрэбна вайна! Мы, мірныя людзі, і надалей будзем змагацца за мір ва ўсім свеце!

Упэўнена ўступілі ў новы, 1955, год совецкія людзі. Яны ведаюць: гэты год прынясе ім новыя выдатныя здабыткі ў працы, новыя вялікія радасці ў жыцці.



Прынеслі пісьмо ад Алега: ён віншуе з Новым годам.

І. НАУМЕНКА

# З НОВЫМ ГОДАМ!

За акном цярушыцца лёгкі сняжок. Сняжынкі, нібы матылькі, плаўна садзяцца на паркан, на голлі старой яблыні, на зямлю. Валодзя стаіць на табурэце і з зайздрасцю пазірае на двор. Там добра — туды пабеглі і Грыша, і Оля, і Лёня. Лёня яшчэ з раніцы прынёс вялікую сапраўдную ёлку, і яе паставілі зараз пасярод хаты. Гэта добра, што ёлка расце цяпер у хаце і на ёй вісяць цукеркі ў бліскучых паперках. Дзве гэтыя цукеркі Валодзя ўжо з'еў, іх адарвала з зялёнай галінкі мама, толькі загадала, каб ён пра гэта не казаў ні Грышу, ні Олі і не ўцякаў з хаты.

Цукеркі былі смачныя, але на двары таксама добра. Там скача па гурбах вясёлы Шарык, падаюць бялюткія сняжынкі, а цераз вуліцу, на чыгунцы, ездзіць на сваім паравозе дзядзька Максім, які заўсёды, калі ўбачыць Валодзю, робіць страшныя вочы. Толькі Валодзя яго ніколечкі не баіцца, бо дзядзька Максім зусім не злосны, ён толькі так прыкідваецца. Валодзя-ж памятае, летам дзядзька Максім даў яму вялікі чырвоны яблык, а другі раз арэхаў, якія трэба было разбіваць малатком, такія яны былі цвёрдыя.

Валодзя спрабаваў ужо сёння ўцякаць з хаты, каб паглядзець, ці не відно на вуліцы Олі і Лёні, якія пайшлі купляць дзеда Мароза. Ён стаяў на веснічках і спрабаваў лавіць рукою сняжынкі. Яны падалі на руку, і з іх рабілася вада, а руцэ было холадна. Тады ўбачыла мама, што Валодзі няма дома і сілком зацягнула яго назад у хату.

Мама сказала, што ён яшчэ вельмі малы, каб бегаць па снезе, бо калі будзе так рабіць, то прастудзіцца і захварэе. І яшчэ мама сказала, што хутка яму будзе ўжо

сёмы год, бо заўтра Новы год, а калі пройдзе яшчэ адзін Новы год, то тады ўжо Валодзю возьмуць у школу. Таму Валодзю вельмі цікава паглядзець, якім будзе Новы год, бо яму хочацца ў школу, куды кожны дзень ходзяць Оля і Лёня. У іх ёсць свае кніжкі і сумкі, і яны кожны пішуць у сваіх сшытках. Не ходзяць у школу толькі яны з Грышам, але Грыша налета пойдзе ўжо, бо ён старэйшы за Валодзю, а Валодзя самы меншы.

Валодзю вельмі цікава паглядзець, якім будзе дзед Мароз. Але Олі з Лёням усё няма і няма, і ён баіцца, што, можа, ужо ўсіх дзедаў Марозаў параскуплялі і ім нічога не застанецца. Тады будзе вельмі крыўдна, бо на дзеда Мароза цэлы год складалі грошы ён, Грыша, Оля і Лёня. Грошы кідалі ў скарбонку, якую Лёня зрабіў з кансервавай банкі і прыбіў у кутку за печкай. Аднаго разу Валодзя паклаў у скарбонку цэлага рубля, якога яму даў бацька на цукеркі за тое, што ён выгнаў з агароду чужую казу, якая ела іхнюю капусту. Але таго рубля, мабыць, ужо няма, яго ўзяў Лёня сабе на кіно. Ён абяцаў ім з Грышам прынесці жывую птушку, а за гэта яны і дазволілі яму адкрыць скарбонку і ўзяць крыху грошай. Але птушкі Лёня не прынёс, казаў, што злавіў, а яна ўцякла. Валодзя цяпер ведае, што Лёня тады маніў, бо нельга спаймаць жывой птушкі, ён-жа прабаваў сам...

Але вось ідуць Лёня, Оля і Грыша. Ці купілі-ж яны хоць дзеда Мароза? Валодзя борздзенька саскоквае з табурэта і бяжыць на кухню, туды, дзе мама пячэ салодкія коржыкі. Дзеда Мароза, захутанага ў газету, нясе Оля. Яна хоць і ходзіць ужо ў другі клас, але не шмат вышэй за Валодзю, ведама, дзяўчынка. Валодзя хутка перагоніць яе і будзе такім вялікім, як і Лёня, нездарма ён вучыцца аж у сёмым класе. Вось няхай наступіць толькі Новы год. А дзед Мароз зусім маленькі. Пад высокай ёлкай ён сядзіць, як дзіця, толькі што вусы і чырвоная шапка.

Валодзю вельмі радасна, што ў іх хаце расце ёлка, што пад ёлкай сядзіць дзед Мароз, што яму ў новым годзе хутка будзе цэлых сем гадоў...

Новы год у доме № 76 па Чыгуначнай вуліцы горада Мінска ў доме рабочага пагрузачнай канторы Данілы Антонавіча Крупко і яго жонкі Ольгі Іванаўны адзначаўся, мусіць, так, як ён адзначаецца, бадай, у многіх нашых сем'ях. Сустракалі яго па-сямейнаму.

А сям'я ў Данілы Антонавіча і Ольгі Іванаўны не малая. Валодзя, той, што з нецярпеннем чакае, калі ўжо яму пойдзе жаданы сёмы год, самы меншы, дзесяты, сын у гэтай слаўнай рабочай сям'і. Хутка будзе ўжо трыццаць год, як разам ідуць па жыццю Даніла Антонавіч і Ольга Іванаўна. Шмат усягоўсякага было за гэтыя гады. Хіба забудзеш вайну, фашысцкія бомбы, якія падалі на чыгуначны пасёлак, на ціхія сады, на родны горад? Калі пачалася вайна, самай старэйшай — Ларысе — было ўсяго трынаццаць гадоў, самаму малодшаму — Івану — некалькі тыдняў. На руках у Ольгі Іванаўны ў тыя цяжкія ваенныя гады было сямёра — адно пад адным — малых дзяцей. Але трэба было жыць, трэба было змагацца.

Ольга Іванаўна і Даніла Антонавіч не засталіся ў баку ад той святой барацьбы, якую вялі совецкія людзі супраць праклятых чужынцаў. Яны абодва сталі партызанскімі сувязнымі. Можа ў тыя суровыя гады бацькі вялікай сям'і ўпершыню адчулі, што іх родная сям'я — уся совецкая Радзіма, бо без яе нельга было думаць пра жыццё, пра будучыню сваіх дзяцей.

Інакш быць не магло. Даніла Антонавіч з мяшэчкам за плячыма аж у маладзечанскія лясы насіў медыкаменты для партызан, якія перадавалі яму надзейныя людзі з мінскага падполля. Ольга Іванаўна ніколі не забудзе такога выпадку. Аднойчы фашысты хадзілі з вобыскамі па дамах чыгуначнікаў, каб арыштаваць партызанскую сувязную, на якую данёс адзін здраднік. Гэтая сувязная — амаль дзяўчынка яшчэ — забегла ў дом да Крупко. Трэба было нешта рабіць, бо ў хату вось-вось маглі зайсці фашысты. Ольга Іванаўна доўга не думала. Яна загадала дзяўчыне распрануцца і лажыцца ў пасцель разам са сваімі дзецьмі. Фашысты прыйшлі ў дом. Каб яны апазналі сувязную, то разам з ёй загінула-б уся сям'я Крупко. І маці ведала пра гэта...

Прайшло ўжо больш як дзесяць год з таго часу. Сям'я Крупко прыбавілася яшчэ. Палавіна дзяцей сталі ўжо на свае ногі. Ларыса, старэйшая, пайшла замуж: жыве, як і людзі. Ольга Іванаўна мае таму ўжо і ўнукаў. Першы, Саша, ларысін гадавічок, сядзіць зараз у яе на каленях і гудзе пра нешта сваё, дзіцячае. Другі ўнук, Валерык, сын Аляксандра, жыве разам з бабкай. Аляксандр адбыў ужо армію, ажаніўся, працуе на заводзе.

Ольга Іванаўна крыху баялася за нявестку Лілю. Яна хоць і з рабочай сям'і, але была адзінай дачкой у бацькоў, масляніцай, як кажуць. Можа не да спадобы прыдзецца ёй жыццё ў шумлівай, мнагалюднай сям'і. Але нічога, не крыўдзіцца на жыццё. Значыць, добра.

Дачка Тамара працуе на заводзе медыцынскіх прэпаратаў брыгадзірам. Шануюць яе там і паважаюць, і не раз прэміі давалі і падзякі выносілі.

На тым-жа заводзе слесарам працуе і сын Мікалай. Таксама хлопец баявы, комсамолец, не адстае ад Тамары, хоць і маладзейшы. Ці-ж не радасна за дзяцей маці, калі за іх ёй павага і гонар!

Сёння за святочным сталом з усяе сям'і няма толькі сына Алега, бо ён служыць у арміі. Прыслаў тэлеграму, віншуе з Новым годам. А крыху раней прыслалі пісьмо з часці, у якой служыць Алег. Дзякавалі бацькам за тое, што вырасцілі добрага байца, выдатніка баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Маці ўсміхаецца, калі ўспамінае пра гэта. Ёй, мусіць, цяжка ўявіць, як гэта яе Алег, які, здаецца, зусім нядаўна, румзаючы, скардзіўся ёй на старэйшых братоў, абыходзіцца з гэтымі кулямётамі і гарматамі.

Маладзейшыя, што-ж пра іх казаць, яны пад мацярынскім наглядам. Лёня з Оляй у школе, туды-ж ірвуцца і два меншыя — Грыша з Валодзем. Хай вучацца, жыць стала лягчэй, бо аб старэйшых зараз клопатаў меней. Бацька кажа, што папаўненне для рабочага класа іх сям'я ўжо дала, а цяпер ён будзе выхоўваць працоўную інтэлігенцыю. Няхай сабе і інтэлігенцыю, толькі каб былі жывы і здаровы. З Олі, мабыць, настаўніца будзе: яна такая ласкавая, абыходлівая. А Лёня дык той усё змеямі, фанернымі самалётамі захапляецца. Штаноў не набрацца. Але вучыцца добра, маці не даводзіцца за яго чырванець.

Усё ідзе як трэба, як і ў людзей. Толькі каб гэтай вайны не было. У хату прыносяць аж пяць газет, бацька чытае «Известия», а Оля — «Пионерскую правду». Маці не прамінае, каб не спытаць, ці не ўтаймаваліся там, за мяжой, новыя фашысты, якія зноў хочуць вайны. Бацька смяецца і адказвае, што калі не ўтаймаваліся, то абавязкова ўтаймуюцца, як толькі ён мабілізуе свой уласны сямейны ўзвод. Не трэба і ўзвода, і вайны...

Гэты навагодні вечар Ольга Іванаўна лічыць сваім асабістым святам. Мо' таму і ззяе на яе скромнай кофтачцы з паркалю ў крапінку залатая зорка мацярынскай славы, якую маці ў будныя дні не носіць. Свята і за сталом. Сабралася ўся вялікая сям'я. Бацька не прамiне, каб не пахваліцца:

— Жыць стала лепей, жыць стала весялей, — кажа ён, паднімаючы чарку. — У маёй пагрузачнай канторы добра відно, як мы наперад за гэты год пайшлі, бо ўсё ідзе праз нашы рукі. Трактараў, аўтамабіляў, машын розных, тканін куды больш легашняга адгрузілі мы сёлета з Мінска. Затое і ў Мінск прывезлі больш усяго-ўсякага: мукі, цукру, фруктаў, віна. Каб новы год яшчэ багацейшым быў. Будзем жывы-здаровы, з Новым годам!

Пятрусь МАКАЛЬ

## Ускраіна

Я да цябе, ускраіна, калісь
Прыходзіў што ні дзень з будаўнікамі.
Звінела кельма, і няспынна ўвысь
Расла сцяна цаглянымі радкамі.

Я адчуваў, як пад маёй рукой
Будынак светлы распрамляе плечы.
І ты перастала быць глухой
Ад кожнай нашай новае сустрэчы.

Паўсталі гмахаў стройныя рады,
Фабрычны комін неба падпірае...
З завулка вырас горад малады,
Які мяне гудкамі сустракае.

І хоць у мур кладзе рука мая
Цагліны не на вуліцы цэнтральнай, —
Ды сцежка, па якой ступаю я,
Становіцца
Дарогай магістральнай.

## Вечар у інстытуце

Асвятляе маладзік двурогі
Мне сцяжынку зноў у інстытут.
Ля дзвярэй стаіць дзяжурны строгі —
Самы старшы камандзір ён тут.

Я правёў у светлым доме гэтым
Лепшыя юнацкія гады
І без запрашальнага білета
Маю права завітаць сюды.

Ведаю, з сябрамі тут не стрэцца:
Іх дарогі — па краіне ўсёй.

Толькі вартаўнік мне усміхнецца.
Ён адзін — стары знаёмы мой.

Ходзяць юнакі гаспадарамі —
Новая шумлівая сям'я.
Хоць любога я старэй гадамі,
У баку не зстануся я...

Гэтак гучна зашумі, юнацтва,
У начной абуджанай цішы,
Каб адчуў я, што і мне семнаццаць,
Хай не па гадах, дык па душы!

Іван ШАМЯКІН

# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

З цыкла «Партрэты»

Мал. М. Бельскага.

## Матчыны рукі

Я адразу адчуў, што сваім прыходам перапыніў цікавую размову. Нягледзячы на позні час, ніхто з пасажыраў не спаў. Сустрэлі яны мяне позіркамі, у якіх не надта многа было ветлівасці: «Чаго цябе прынесла ў такі час ды яшчэ з такога ляснога раз'езда?» Бліжэйшыя ад акна глянулі ў цемру ночы, дзе сіратліва свяціўся адзіны аганёк «дзяжуркі». Далей, за аганьком, стаяла чорная сцяна лесу, вырысоўваючыся сваімі зубцамі на фоне марознага неба. Потым, відаць, прымірыўшыся з непазбежнасцю прыняць у сваю кампанію новага чалавека — што зробіш, ва ўсіх аднолькавыя пасажырскія правы! — суседзі пільна агледзелі мяне, як-бы ацэньваючы, ці варты я ўвагі і давер'я. Але ўсё гэта — толькі на працягу тых двух мінут, пакуль стаяў поезд. А як толькі поезд крануўся, усе адразу забылі, хто тут «новы», а хто «стары» — усе роўныя. Усім аднолькава хацелася скараціць час, які нідзе не цягнецца так марудна, як у дарозе. Скарачаюць яго ў вагонах па-рознаму — ядуць, гуляюць у даміно, у карты, а часцей за ўсё расказваюць розныя здарэнні і прыгоды, часам жыццёвыя, рэальныя, а часам і выдуманыя — плады народнай фантазіі. Але колькі мудрасці і прыгажосці ў гэтых вагонных расказах! Вы толькі паездзіце больш, дык пачуеце нямала ўсяго!

Маладая жанчына, што сядзела ў самым куце, за столікам, хутаючыся ў вялікую белую хустку, звярнулася да старой, маёй суседкі па лаве:

— Вы нешта таксама хацелі расказаць нам пра маці?

— Я? — старая выцерла ражком хусткі куточкі вуснаў, папправіла хустку і валасы. Загарэлы выцягнуты твар яе прывабліваў сваёй простай і мужнай суровасцю, здавалася, у выразных маршчынах яе твару адбіліся ўсе радасці і няшчасці яе жыцця. — Не... Я толькі пра матчыны рукі хацела слова сказаць. Успомніла адзін выпадак і дай, думаю, раскажу людзям. Даўно гэта было, я яшчэ маладая была, і ўсе яшчэ аднаасобна жылі... У нашай вёсцы дзве сястры былі — Уліта і Марфа. Праўда, у нашай вёсцы жыла адна Уліта, а Марфа выйшла замуж за раку, кіламетраў за дванаццаць. І няроўны ў іх лёс быў... Уліта жыла бедна-бедна, але затое дзяцей у яе — поўная хата, як кажуць, што ні год, то прыплод... А Марфа за багатым чалавекам раскашавала, але бог не даў ёй ні аднаго дзіцяткі... Гаравала яна ад гэтага. А пасля папрасіла ў старэйшай сястры, каб аддала яна ёй малодшую дзяўчынку, тая ўжо дзевятай у хаце была... Згадзілася Уліта, хацелася ёй шчасця для сваёй дзіцяці. Бо як тады шчасце мы разумелі? — багатая, з пасагам — значыцца, і шчаслівая. Узяла Марфа немаўлёнка, каб яна нічога не разумела і не ведала і за маці яе лічыла...

— Усынавіла, значыць, — адгукнуўся малады голас з верхняй полкі.

— Удачарыла... дзяўчынка-ж гэта была, — папправіла старая і чамусьці цяжка ўздыхнула. — Ну, жыве дзіцятка, гаварыць пачало, да цёткі «мама, мама» і больш ведаць нічога не ведае. Гады тры ёй ужо было, а можа і чацвёрты ішоў, калі аднойчы прышла Уліта на свята ў госці да сястры. Пагасціла два дзянёчкі, нацешылася са сваёй Ганначкі, дадому сабралася. Сястра ёй на дарогу добрую кайстру гасцінцаў налажыла і сама пайшла правесці. Ну, і Ганначку з сабой узялі, дзяўчынку... ідуць, размаўляюць... Далёка зайшлі,



і, бачаць, змарылася малая. Марфа кажа ёй:

— Дай я цябе, дочачка, пранясу.

А яна ў адказ:

— Мамачка, няхай мяне цёця пранясе, у яе ручкі мякчэйшыя.

Пабялела Марфа, і злосць апанавала яе: расціла два гады, песціла, а яна — вось як: рукі ў яе цвёрдыя. А ў Уліты—поўныя вочы слёз, глытае яна гэтыя слёзы і слова не можа прамовіць.

Марфа ў злосці пытаецца:

— Дык, можа, ты і пойдзеш да цёці?

— Пайду, мамачка. Пусці мяне...

Не вытрымала Уліта, кінулася да Ганначкі, схапіла на рукі.

— Дочачка ты мая мілая, сонейка ты маё ненагляднае! Ды хіба-ж я цябе зараз камунебудзь аддам? Даруй ты сваёй дурной маці... Не крыўдуй, сястра... Не дам я табе яе больш! Не дам!—Старая вымавіла гэтыя словы з такой шчырасцю і пачуццём, нібы гэта яна маці той маленькай Ганначкі і ўсё адбываецца не шмат год назад, а тут, у вагоне, перад намі.

Усіх нас уразіла яе прачуласць. А жанчына, як-бы схамянуўшыся, зноў павольным і паважным рухам выцерла вусны і спакойным, роўным, нават крыху абыякавым голасам дадала:

— Вось яны якія, матчыны рукі! Самыя мазолістыя, шурпатыя, а ўсеадно — самыя мяккія. Дзіцяці не падманеш... Яно разумее сапраўдную ласку. А Ганначка, што-ж, вырасла і ў сваёй беднай хаце — нішто сабе... Цяпер сама ўжо маці... двое дзетак мае... У калгасе ў нашым працуе, дзевяць класаў яшчэ да вайны скончыла... Баявая такая жанчына! — з гонарам за гэтую «баявую жанчыну» скончыла расказваць старая.

## Бацькаў гонар

— Вы тут усё пра маці цэлы вечар расказваеце, — падаў нечакана голас чалавек з верхняй полкі, якога я спачатку нават і не заўважыў. Ён спрытна саскочыў уніз, сеў на месца, якое яму, пацясніўшыся, вызвалілі, зашпіліў каўнер шаўковай кашулі. Гэта быў мужчына год сарака пяці, калі не больш, з паголенай галавой, з выразнымі рысамі твару, з блізарукімі вачамі. І твар, і рукі яго сведчылі, што чалавек гэты — энергічны, дзейсны і вясёлы. Але ні знешнія прыкметы, ні голас, ні мова, ні манера трымацца—нішто не выдавала яго прафесіі: ён мог быць і рабочым, і старшынёй калгаса, і партыйным ці гаспадарчым кіраўніком і нават, калі хочаце, вучоным, што ехаў куды-небудзь у калгас у камандзіроўку.

— Пра маці многа харошага сказана і вусна і ў літаратуры нашай. А вось пра бацьку забываюць. — Ён сказаў гэта, як жарт, і сам засмяяўся, весела азіраючы ўсіх сваімі праніклівымі вачамі, якія ад смеху надзвычай звузіліся.

— Адразу відаць, што вы — бацька, — пажартаваў яго малады сусед па полцы, звесіўшы сваю чупрыну.

Але чалавек не адказаў на жарт: цень успаміну лёг на яго твары, ён нават на нейкі момант заплюшчыў вочы і пацёр далонямі наморшчаны лоб.

— Я хачу вам расказаць адзін выпадак. У былой Заходняй, пры панскай Польшчы, я меў крышку незвычайную прафесію: мне прыходзілася амаль увесь час хавацца ад паліцыі. Адным словам, я, як і многія мае таварышы, быў падпольшчык.

Пасля такіх слоў усе пасажыры сталі глядзець на гэтага чалавека з пачцівай павагай і

слухаць з большай цікавасцю, не перапыняючы ні адным рухам ці рэплікай. А хлопец з верхняй полкі звесіўся адтуль усім тулавам так, што невядома было, як ён і трымаецца, каб не зваліцца.

— Дык вось... аднойчы па заданню партыі я прыехаў у адну вёску на Брэстчыне, трэба было правесці з сялянамі і батракамі навакольных маёнткаў некаторую работу. Безумоўна, як належыць у такіх выпадках, мне далі яўку — надзейную кватэру, дзе я павінен быў спыніцца. Сустрэў мяне ўначы, калі я прышоў, сам гаспадар... Чалавек — так сабе, звычайны селянін-бядняк... Дзядзька Мікола... Маленькі, хударлявы, не вельмі стары, гадоў гэтак, як мне зараз, але нястачы і цяжкая праца паспяшалі згорбіць яго спіну... Безумоўна, без усялякай асветы, хіба толькі распісацца ўмеў і не вельмі каб уведзены ў нашу падпольную работу, як я пераканаўся з кароткай размовы з ім. Больш таго скажу вам, не надта і падабаўся ён мне, гэты чалавек. Здаўся ён мне на першае знаёмства залішне мітуслівым і баязлівым: вядзе мяне ў гумно, дзе я павінен быў схавацца, а сам раз-по-раз азіраецца, няўлад на пытанні адказвае... Адным словам, не зусім спакойна я спаў у тую ноч: усялякае ў маім падпольным жыцці здаралася і розныя людзі траплялiся на шляху...

А раніцой прынёс мне сняданак яго сын... Янка, хлапчына гэтак гадоў шаснаццаць-семнаццаты... і я вам скажу, я адразу адчуў сябе сярод сваіх... Хлопец увесь гарэў змаганнем, шукаў актыўных дзеянняў і вельмі хацеў хутчэй усвоіць цяжкую навуку рэвалюцыянера-падпольшчыка. Ён мінут дзесяць моцна ціснуў маю руку, закахана ўзіраўся ў поўзмроку гумна мне ў твар, у вочы і паўтараў самае радаснае і самае незвычайнае для яго слова — таварыш... «Таварыш Лявон... Таварыш Лявон». Ён тут-жа, пакуль я снедаў, даволі красамоўна намаляваў мне абстаноўку, пазнаёміў з усімі сябрамі і ворагамі... Дзякуючы яму, я ў першы-ж дзень даволі добра зарыентаваўся і змог адразу-ж пачаць працу... А пад раніцу наступнай ночы... першая палавіна ночы ў мяне была занята справай... мы ляжалі з ім у восеці, і я, па яго просьбе, расказваў Янку пра жыццё ў Савецкім Саюзе. І як ён слухаў, каб вы ведалі, як лавіў кожнае слова! Расказваць такім людзям, я вам скажу, — найвялікшае шчасце для нашага брата, прапагандыста! Пасля мы наладзілі з ім дэтэктарны прыёмнік, пры якім ён доўга марыў, збіраў дэталі, але сам ніяк не мог змантыраваць. А ўвогуле, у хлопца былі надзвычайныя здольнасці: за якія дзве-тры ночы ён добра-такі вывучыў азбуку Марзе, і мы, лежачы каля супроцьлеглых сцен, перастукваліся.

— Навошта гэта табе, Янка? — пытаю я не без хітрасці.

— А як-жа, — кажа,—палітвязню можна без такой навукі?

— Дык ты-ж не палітвязень.

— Дык буду... Так гэта не абыйдзецца... Паліцаі вунь, як сабакі, шныраць, вынюхваюць...

І шкада мне яго было, і гордасцю сэрца напаўнялася за такую змену.

Янка і папярэдзіў мяне, што ў вёску прыехалі паліцаі, шукаюць падпольшчыка. Прышлося развітацца нам... Перабраўся я ў другую вёску, кіламетраў за пятнаццаць, на новую явачную кватэру. Цераз колькі дзён мне паведамілі, што дзядзьку Міколу арыштавалі. Як ні звыкся я з такімі непрыемнымі нечаканасцямі, але, ведаеце, пачуцце заўсёды адно было: не тое, што вінаватым сябе адчуваеш перад такім чалавекам, але неяк балюча, страшна робіцца і злосць апаноўвае... У тры разы мацней пасля гэтага пачынаеш ненавідзець іх, ворагаў... І яшчэ больш чула і клапатліва ставішся да кожнага свайго чалавека. Але што зробіш — барацьба ёсць барацьба!.. Я папрасіў таварышаў даведацца пра Янку — як ён, што з ім? Але вестак ніякіх не атрымаў. І раптам тыдні праз два мне перадаюць, што мяне шукае адзін стары чалавек з той самай вёскі, дзе я быў раней... Шукае, безумоўна, наіўна: ходзіць па самых бедных хатах, распытвае нібыта, дзе можна купіць каня, а калі гаспадар упадабаецца, цішком выпытвае — дзе знайсці таварыша Лявона... А ў мяне — у новым месцы — новае імя, як належыць падпольшчыку... Але, безумоўна, каму трэба, той здагадаўся, што чалавек шукае не каго іншага, як мяне. Па ўсіх прыкметах, якія мне расказалі, — дзядзька Мікола... Што за ліха, думаю? Чалавек, які толькі што пабыў у пастарунку, раптам так настойліва і, калі хочаце, нахабна шукае падпольшчыка... Дзіўны выпадак!.. Хлопцы робяць разведку... Не, нібыта і нічога падазронага — ні паліцэйскіх блізка няма, ні іншых невядомых людзей, ні наогул чаго-небудзь небяспечнага. А чалавек прадаўжае свае пошукі. Начуе нават тут. Раніцой я з вышак убачыў яго, хлопцы знарок правялі яго міма хаты, дзе я хаваўся... Сапраўды, дзядзька Мікола... Што яму трэба ад мяне? Адкуль, нарэшце, ён ведае, што я тут? Праўда, Янка, які выконваў мае даручэнні, прыкладна ведаў зону маёй дзейнасці. Сябры прапануюць зрабіць яму допыт і, калі што якое, — рэвалюцыйны суд. А калі чалавек па глупству свайму задумаў такія пошукі, сказаць яму, што ён дурань, і навучыць, як сябе паводзіць. Мне ўсе ў адзін голас, — а ячэйка ў нас там была моцная, — не раяць сустракацца з ім. Гарачыя галовы, баяцца, каб паліцыя часам не даручыла яму тэрарыстычны акт які... А я вырашаю сустрэцца, адразу-ж, знянацку... Яго накіроўваюць за вёску, на ўзлесак, і мы там сустракаемся... Ён, як убачыў мяне, кінуўся ўперад амаль уподбег з радаснай усмешкай на твары, які ўвесь быў у сіняках і крывепадцёках — знакі кожнага, хто трапляў у пастарунак.



Хапае дзядзька Мікола маю руку, цісне гэтак-жа, як сын яго.

— Таварыш Лявон!.. — а ў вачах добрыя такія, ясныя слёзы — не крыўды, не скаргі і жалю, а нейкія зусім іншыя слёзы, якія я нават не адразу зразумеў. — Таварыш Лявон! Янка мой — а! Які малайчына! Як яны, сукіны сыны, білі яго на маіх вачах, думалі, у малога можна выпытаць хутчэй... А ён — ні слова. У твар гэтаму гаду, начальніку, крывёю плюнуў... Нічога, кажа, я вам не скажу, я — рэвалюцыянер... Вось які мой Янка, таварыш Лявон! Забралі яго, пагналі ў Брэст. — І гэтулькі было бацькоўскага гонару ў яго словах! — таго вялікага чалавечага гонару, які перамагае ўсё — боль, смутак...

Прызнаюся, не вытрымаў я і, на здзіўленне маім хлопцам, што здалёк, з-за дрэў, сцерaглі мяне, абняў і моцна пацалаваў гэтага чалавека, які так упарта шукаў мяне толькі для таго, каб паведаміць, што сын яго з гонарам вытрымаў цяжкі і пачэсны экзамен на высокае званне змагара за народнае шчасце.

# Абраза

Размова была перапынена чарговай супынкай поезда ўжо на большай станцыі, дзе гарэлі электрычныя ліхтары. Даведаўшыся, што поезд стаіць сем мінут, «таварыш Лявон» — так раптам усе пачалі зваць чалавека з паголенай галавой — узяў у маёй суседкі чайнік і пабег набраць вады. Пакуль ён адсутнічаў, усе вельмі турбаваліся, каб ён часам не спазніўся.

Ваду пілі па чарзе са шклянкі і алюмініевай конаўкі, калі поезд зноў крануўся.

— Ну, што-ж... спаць ужо няма калі, хутка прыедзем, — глянуўшы на кішэнёвы гадзіннік, сказаў «таварыш Лявон», і гэта было як-бы прапановай: давайце расказваць далей.

Маладая жанчына, што сядзела ў кутку, каля акна, яшчэ больш прыціснулася да сцяны, глыбей захуталася ў сваю вялікую хустку і прыкметна пачырванела: нібы яна адчула, што прышла яе чарга расказваць. Было відно, што пачаць расказваць ёй нялёгка, яна з задавальненнем лепш паслухала-б іншых, але тут гэта стала як-бы абавязкам, і яна не магла не выканаць яго сумлення. І сапраўды, як-бы набраўшыся раптам рашучасці, яна адарвалася ад сцяны, абаперлася локцем на столік і ссунула хустку з галавы.

— А ведаеце, — сказала яна, — здараецца, што любоў маці да свайго дзіцяці з'яўляецца не адразу. Ну, ведаеце, бываюць такія выпадкі... Рознае ў жыцці бывае...

— Калі маці як маці, — сурова і як-бы непрыязна перапыніла яе старая, што расказвала пра матчыны рукі, — дык любоў у яе прыходзіць адразу-ж, як яна пачуе першы крык свайго дзіцяткі... Ды што я кажу! Раней... раней яна любіць яго!

Маладая жанчына разгубілася так, што, здавалася, вось-вось заплача ад роспачы, ад нездатнасці сваёй што-небудзь расказаць. Але яе падтрымаў таварыш Лявон:

— Сапраўды, чаго не бывае ў жыцці! І такога, што душу крane высокародствам, і паганага, што абурае...

— Не, я не пра паганае хачу расказаць, — спалохалася жанчына. — Я проста хацела расказаць пра адну сваю сяброўку. З нашага калгаса... Дальбог, харошая жанчына і працуе добра. Вось на выстаўку ездзіла... нядаўна...

Яна перавяла дыханне, аглядзела ўсіх нас і, убачыўшы, што слухаюць яе з цікавасцю, пасмялела.

— Гадоў сем таму назад паехала Вольга, знаёмая гэтая самая мая, у горад. На будаўніцтве рабіла... Маладая была, якіх дваццаць год мела... Ну, і пакахала хлопца... Як кажуць, сэрцам і душой. Ён — прыгожы, вясёлы, баяніст... Па ім, можа, сотні дзяўчат ўздыхалі. А пасля выявілася, што душа ў яго пустая, нікчэмная, у такой душы ніколі сапраўднага кахання не будзе, адзін гуляй-вецер. Страшныя гэта людзі: яны самі па-чалавечы не жывуць



і другім часам жыццё калечаць. Кажуць, перавыхоўваць іх трэба... А я іх проста зневажала-б... Ненавідзела-б... Я судзіла-б іх!..

Схамянуўшыся, што залішне горача выказвае яна сваё абурэнне супраць такіх людзей, жанчына, вінавата ўсміхнулася і пачала гаварыць спакайней.

— Цяжка было беднай Вользе адной з дзіцем. Бацька той няшчасны знік — і след прастыў... Ды ў яе і гонар не дазваляў шукаць яго, прайдзісвета. Нямала яна наглыталася горкіх слёз. І абраза душыла за растаптанае каханне, і ад людзей сорамна было. А чаму не сорамна? Усёадно, хоць і няма тваёй віны, а адчуваеш сябе як-бы вінаватай... А паспрабуйце вы папрацаваць на будаўніцтве з грудным дзіцем... Ой, нялёгка гэта! Адным словам, не вытрымала наша Вольга. Прывезла яна сына да маці сваёй, пакінула на яе рукі, а сама завербавалася на іншую працу — і на Урал, каб далей ад знаёмых... Не падумайце, што яна не любіла свайго Віцю... Не... Я-ж ведаю, не раз яна да раніцы заснуць не магла і падушку слязамі вымочвала. Пісьмы штотыдзень ад яе ляцелі, большую частку заробка на сына пасылала, часам сама недаядала. Але так здарылася па розных прычынах, што яна за чатыры гады ні разу дамоў не прыехала. Нарэшце, вярнулася...

Вышла яна з аўтобуса. Каля нашай вёскі шаша праходзіць... Бачыць: маці стаіць, а са старой вярбы спрытна саскочыў хлапчук... Вольга нават не падумала адразу, што гэта яе сын. Занадта вялікі здаўся ён на свае няпоўных пяць год, а яна-ж яго ўвесь час маленькім уяўляла. Глянуў ён на бабулю і адразу да Вольгі кінуўся, ды такім радасным голасам закрычаў, што проста... нямаведама, якая гэта радасць для яго была:

— Мама! Мамачка!..

Пачула Вольга гэты голас, і сэрца ў яе самлела. Кінула яна свае пакункі, схапіла сына на рукі, прыціснула да грудзей, на ўвесь свет забылася, на маці родную, якая стаяла збоку і плакала. Хіба тую любоў, якой любіла яна сына раней, можна было параўнаць з тым, што яна адчула цяпер! Ой, не! Усё перавярнулася ў яе душы. Калі, можа, раней там агеньчык гарэў, дык цяпер полымя зашугала. А Віця лашчыцца і смяецца ад шчасця:

— Ай, мамачка, — кажа, — як добра, што ты прыехала. А то ва ўсіх мамы ёсць, а ў мяне не было. А цяпер і ў мяне мама будзе!

Засумавала гаротнае дзіця без матчынай ласкі. Вольгіна маці расказвае, што як атрымалі тэлеграму, дык Віця і ў сне клікаў маму, а ў той дзень з раніцы выцягнуў бабулю на шашу — сустракаць. Колькі гадзін на спякоце чакаў, іншы дарослы не вытрымаў-бы.

Забылася яна ўраз на згрызоты, на сорам перад людзьмі — на ўсё, адным шчасцем напоўнілася яе сэрца. Здаецца, свету не ўяўляла яна ў той час без гэтага роднага, загарэлага, белагаловага, вясёлага хлапчука, які ўжо хапаецца, каб паднесці пакунак, хоча паказаць сябе вялікім і дужым. А праз хвілінку шэпча маці:

— Мамачка, ідзем па сцежцы каля рэчкі, я табе нешта пакажу... Толькі ты нікому не расказвай, — і, прапанаваўшы бабулі чакаць на сцежцы, вядзе таямніча маці ў кусты і паказвае ёй птушынае гняздо з яшчэ голымі птушанятамі.

— Бачыш? — пытаецца. — Я іх нікому не паказваю, каб ніхто не забраў. Няхай яны вырастуць і паляцяць, мама. Так? Ім-жа вельмі-вельмі хочацца лётаць!

Не думала і не сніла Вольга, што гэтулькі радасці, гэтулькі шчасця сустрэне яна дома. Усё больш разгаралася яе любоў, расла яе ўцеха. Але на другі дзень радасць яе азмрочылі... Яна раптам пачула, што дзеці, гуляючы з яе сынам, не клічуць яго Віцем, а называюць дзіўным словам — Самасей. Гэта абразіла маці. Ад чаго ўзялася гэтая недарэчная незразумелая мянушка. Хто яе выдумаў? А пасля даведалася, што маці-ж яе, добрая, але дасціпная на язык жанчына, і выдумала слова гэтае, якое зрабілася мянушкай для ўнука. Неяк, калі Віця быў яшчэ малы, зайшла ў хату жанчына з суседняй вёскі, наіўна спытала:

— А хлопчык гэта адкуль у вас?

— А гэта — самасей, — жартам адказала бабуля. А ў вёсцы мянушкі, ведаеце, як хутка прыліпаюць. З таго часу і пайшло — Самасей і Самасей. А Вольга, як даведалася сэнс мянушкі, яшчэ больш абразілася, плакаць пачала, з маці палаялася. Старая супакойвала яе:

— У вёсцы кожны чалавек мянушку мае і нікому блага ад гэтага не робіцца. Няхай пляузгаюць.

Але ніштo не магло супакоіць яе. Ніштo ў жыцці яе не абражала яшчэ так, як гэтае слова. Яе проста пачынала біць ліхаманка, калі яна часам чула яго... Яна прасіла дзяцей, пагражала ім, пераконвала сына ненавідзець кожнага, хто будзе клікаць яго так. Але Віця не разумеў гэтага. Дзе яму, дзіцяці, зразумець!.. Ён нават пачаў праз гэта пазбягаць маці, да якой адчуў такую вялікую любасць у першыя дні. Дзеля яго толькі пачыналіся сапраўдныя дзіцячыя радасці, і яму хацелася сябраваць з усімі, з усім светам: з людзьмі, з жывёламі, з дрэвамі...

Вольга ехала дадому з намерам застацца працаваць у сваім калгасе, які к таму часу стаў багатым, на працадзень людзі добра атрымоўваць пачалі. Яна і працавала ўжо на ферме, і працавала, як кажуць, з агеньком. Але цераз сына ёй захацелася з'ехаць зноў кудынебудзь далей, ужо разам з ім, каб не чуць гэтай абразлівай мянушкі... Шкада ёй было: і Віці так хораша тут, і сама яна засумавала па роднай вёсцы. А колькі слёз маці ліла, упрошваючы яе нікуды больш не ехаць. Старая ўжо нядужай стала, а ў хаце больш — ні душы. Ды Вольга вырашыла цвёрда, напісала пісьмы сяброўкам на Урал — прасіла дапамагчы ёй. Але здарыўся такі выпадак... Неяк у нядзелю сабраліся людзі каля крамы, мужчыны дык амаль усе з вёскі, ды і жанчын нямала... Самая пара такая была, перад уборкай: сена пакасілі, а жыта жаць не пачалі. Каля крамы ў нас заўсёды збіраюцца, зімой — у самой краме, а ўлетку — на ганку ды на муражку перад ганкам. Хто з мужчын зойдзе шклянку віна вып'е, калі ад жонкі грошай прыхавае... А хто так — паслухаць, пажартаваць... Тут і сур'ёзныя гутаркі, пра палітыку ўсё больш, тут і жарты. І амаль заўсёды тут прысутнічае Мацвей Пятровіч, дырэктар нашай школы. Ён у нас гадоў дваццаць ужо настаўнічае, яшчэ маладым прыехаў. Усіх вучыў, і я ў яго сямігодку канчала. І Вольга таксама вучылася. Вельмі яго ўсе паважаюць у нас... Пасля вайны ён увесь час парторгам у нашым калгасе. Ён і калгас падняў, на ногі паставіў. А сам просты такі чалавек, з кожным умее пагутарыць, пажартаваць — з малым і з старым. Дык вось сядзіць Мацвей Пятровіч на ганку, расказвае пра палітыку, а Віця мой... — жанчына на момант сумелася, зноў пачырванела, але ўсе мы зрабілі выгляд, што не заўважылі яе агаворкі.— А Віця гэты Вольгін, непаседа-ж вялікі, павіс на дзвярах крамных і катаецца, а дзверы скрыпяць на ўсе лады. Павярнуўся Мацвей Пятровіч і ласкава гэтак кажа:

— Самасей, злезь!

Хлопчык толькі засмяяўся, а Вольгу агнём абпалілі гэтыя словы. Каб хто, можа, іншы сказаў, магчыма, што яна зноў змаўчала-б, стаіўшы абразу, а то-ж Мацвей Пятровіч, які вучыў яе, якога яна гэтак паважала. Пабялела яна ўся, шагнула наперад, стала перад ім і зашаптала, задыхаючыся ад крыўды:

— Як вам не сорамна, Мацвей Пятровіч! Як вам не сорамна!..

Адразу нават не зразумелі, у чым справа, і ўсе здзівіліся.

— Вы-ж настаўнік, вы-ж вучылі нас,—і крыкнула ў злосці: — У майго сына імя ёсць! Імя! Як у кожнага чалавека! Віця! Віктар! А вы... Эх вы... Выхавацель! — і, схапіўшы спалоханага сына на рукі, Вольга пайшла прэч.

Усе на момант анямелі. Нехта са старэйшых сказаў:

— Звар'яцела баба.

Малады пажартаваў:

— Культуры замнога набралася.

А Мацвей Пятровіч раптам падняўся і шпарка пайшоў за ёй следам. Паклікаў:

— Вольга Паўлаўна!

Яна спынілася пасярод вуліцы.

Ён падыйшоў і зняў фуражку, пакланіўся ёй, а галава ў яго амаль уся сівая. І ўсе глядзяць на яго.

— Даруй, — кажа, — Вольга Паўлаўна. Вінаваты я перад табой! Разумею я цябе і абяцаю, што зраблю ўсё, каб і дзеці і дарослыя забыліся на гэтае слова.

І сапраўды. Хутка Віця для ўсіх стаў Віцем. А мянушку хіба хто зрэдку ў злосці ўспамінаў.

Але гэта не абражала ўжо так Вольгу.

## У роднай сям'і

— Цяпер ваша чарга. Адзін вы нічога не расказвалі, — сказаў «таварыш Лявон» пасажыру, што сядзеў каля століка насупраць Вольгі — так, у прыватнасці, я назваў жанчыну, якая толькі што скончыла расказваць і, відаць, узрушаная гэтым, цяпер глядзела ў акно, за якім, акрамя адлюстраванняў вагоннага святла, больш нічога не было відаць. Пасажыр, да якога звярнуўся «таварыш Лявон», быў самым маўклівым чалавекам, за ўвесь вечар ён бадай што не сказаў ні аднаго слова, нікога не перапыніў рэплікай ці запытаннем, як іншыя, але ўсіх слухаў уважліва. Гэта быў мужчына год трыццаці пяці, калі меркаваць па яго вачах, ілбе і скронях, бо ніжняя частка твару яго мела нейкі як-бы маладзейшы выгляд. Сакрэт дзіўнай неадпаведнасці можна было растлумачыць, калі добра ўгледзецца:

чалавек перанёс пластычную аперацыю твару, зробленую, праўда, настолькі ўмела, што нявопытнаму воку цяжка і заўважыць было.

— Што-ж, калі гэта так трэба, я раскажу, — надзвычай проста, без усялякага аднеквання і позы сказаў гэты чалавек. — Але расказваць пра другіх я не ўмею, не ўмею паставіць сябе на месца іншага чалавека. Я раскажу пра сябе... Адзін выпадак з свайго жыцця, праўда, далёкі, ваенны. Не пярэчыце?

— Калі ласка, — у адзін голас папрасілі мы. Ён крышачку заікаўся, і ўвогуле было такое адчуванне, нібыта ў яго нешта ў роце, што перашкаджае гаварыць натуральна, як уласціва яму. Але ён гаварыў павольна, правільна, выразна вымаўляючы кожнае слова.

— Першыя паўтара года я ваяваў на фронце. У пачатку сорак трэцяга мяне ў складзе спецгрупы перакінулі ў тыл, да партызан. Я трапіў у злучэнне, якое ў хуткім часе пасля нашага прылёту, зрабіла свой славуты санны рэйд па варожых тылах. Ведаеце? Скажу вам, незабыўная падзея, гэты рэйд! Уявіце сабе! Паркі і тройкі коней, запрэжаных у сані, ляцяць па зімовых дарогах, дзе не можа прайсці ніякая тэхніка. А саней такіх сотні. А на іх — сотні ўзброеных людзей, партызан. Ад язды дух захоплівае. Ураганам налядалі на гарнізоны, станцыі, склады, лагеры, знішчалі, палілі, разбуралі, вызвалялі сваіх людзей... Наводзілі на немцаў страх!

Не, што ні кажыце, а я заўсёды з радасцю і хваляваннем успамінаю гэты наш рэйд! Ведаеце, такая гэта была рамантыка, такое разгарненне на ўсю нашу партызанскую сілу і адвагу, — і расказчык раптам, захапіўшыся, шырока развёў рукі, — што кожнаму на ўсё жыццё запомнілася... Але, ведаеце, на вайне, акрамя агульнай мэты, агульных думак, у кожнага чалавека ёсць яшчэ нейкая свая асабістая мэта, свае патаемныя думкі. Мы рухаліся на Палессе, у напрамку майго раёна, маёй роднай вёскі. І можаце зразумець, якое ў мяне было жаданне трапіць дадому, пабачыць сваіх... блізкіх... А ў каго-б не было гэтага жадання пры такой сітуацыі! Амаль два гады пра мяне нічога не ведаюць — ці жывы, ці здаровы, дзе я, што са мной? — і раптам з'явіцца такім госцем. Уявіце... Вядома, разам з жаданнем былі і трывогі, неспакой, цяжкія думкі. А як там мае? Ці жывыя яны? Як сустрэнуць жонка, бацька, маці? Безумоўна, што я рваўся наперад! Хутчэй наперад. Ну... і, вядома, як гэта часта бывае на вайне, раптам скончыліся ўсе мае надзеі, усе мае жаданні і думкі... У памяці засталося, як мы атакавалі адзін раённы цэнтр, дзе быў моцны гарнізон, як перада мной шлёпнулася ў снег міна... І ўсё... Больш нічога не помню... А калі пачала вяртацца прытомнасць, помню, першае, што пачуў, дык гэта нейкую дзіўную музыку. Я страшэнна напружваў слых, узіраўся ў нешта аднастайна шэрае нада мной, што плыло, і ніяк не мог зразумець, што са мною, дзе я... І раптам у вышыні прамільгнулі заснежаныя галіны сасны і ў той-жа момант фыркнуў конь, і я адразу апынуўся ў рэальных абставінах і зразумеў, што музыка — гэта звіняць палазы па наезджанай дарозе. Значыцца, мяне некуды вязуць. І адразу я адчуў, што бачу адным толькі вокам, левым, чую таксама адным вухам, дыхаю цераз нос, а ўсё іншае на твары сціснута, забінтавана. Страшэнна баліць у роце. Не магу паварушыць правай рукой. Але думка, што жывы, узбадзёрыла. Я паварушыўся.

Нада мной схілілася незнаёмая дзяўчына ў шапцы-вушанцы.

— Абудзіўся! — сказала яна ўзрадавана. — Не холадна? Не замёрз? Гаротненькі, ён, мабыць, нічога і не чуе.

Але я чуў і пачуў іншы голас, мужчынскі:
— Пэўна, не чуе. Кажуць, перад самым тварам міна разарвалася.

— Ды я-ж перавязвала яго, — зноў сказала дзяўчына. — Страшна глянуць. Усю сківіцу разбіла, шчаку, і ў руку асколак. — І, відаць, па выразу вока майго зразумеўшы, што я чую, яна радасна крыкнула. — Алеська! Чуе ён, — і нахіліўшыся да мяне бліжэй і адразу зразумеўшы мае нямыя пытанні, пачала даваць адказы на іх. — Куды едзем? На аэрадром вязем цябе, на наш партызанскі аэрадром. У Маскву паляціш. Там цябе вылечаць, не хвалюйся, родненькі.

Але ў гэты момант, мабыць, сані кінула на ўхабу, страшэнны боль пеканула ў самы мозг, і я паляцеў у нейкую бездань, куды даляталі толькі асобныя невыразныя гукі і жахлівыя ўяўленні.

У другі раз прытомнасць вярнулася з адчування спакою і цяпла. Вярнулася яна неяк раптоўна: я адразу пачуў галасы людзей і адразу пачаў думаць. Везлі ў Маскву. Можа я ў Маскве ўжо?.. Але тут-жа адчуў, што ляжу ўсё яшчэ ў кажушку. Значыцца, не ў Маскве. Напэўна, на аэрадроме. Вось так, дакладна помню, ішлі мае думкі. Ды раптам я глянуў угору... Я быў ужо ранены на фронце і ведаў, што такое трызненні, якія нечаканыя ўяўленні бываюць у такім стане... Але я выразна чуў голас — нехта расказваў пра бой за той райцэнтр, дзе мяне паранілі... І ў гэты-ж час я бачыў перад сабой жэрдачку з пляцёнкай цыбулі на ёй накрытую старэнькай кофтачкай. Усё гэта было вельмі знаёмае, усё гэта я пазнаў-бы дзе хочаш, бо гэта была жэрдачка, якая вісела ў маёй роднай хаце, і кофтачка маёй маці. Я глянуў уперад і ўбачыў верхнюю частку акна, таксама знаёмую, са знаёмымі цвікамі для гардзін, якія я сам забіваў, а з боку акна край рамкі для фатаграфій, якую я таксама некалі рабіў сам. Я зразумеў, што не трызню, што я сапраўды ў роднай хаце. Відаць, нехта пазнаў мяне і завёз па дарозе. Радасць і адначасова страх ахапілі мяне. Страх за родных — як яны пераживуць гэтае маё раненне? Як ім цяжка зараз, няшчасным! Дзе вы, Вера, мама? Дайце я пагляджу ў вашы заплаканыя вочы!

Раптам у галавах у мяне нехта цяжка застагнаў.

— Баліць, мой саколе! Баліць. Але ты еж, еж, набірайся сілы і загояцца твае ножкі... Косці маладыя, а дактары ў Маскве добрыя... А вось гаротнічак ляжыць, у твар яго параніла, ён ні есці, ні гаварыць не можа і ў сябе не прыходзіць. Охо-хо, якое горачка!

Над маёй галавой гаварыла маці — я адразу пазнаў яе голас і мне хацелася паклікаць яе. Я задыхаўся ад намагання крыкнуць праз бінты, але такое намаганне выклікала толькі нястрымны боль ва ўсёй галаве.

Не ведаю як, якімі сіламі, але я нечакана павярнуўся на бок і ўбачыў усю хату. За сталом сядзелі чатыры незнаёмыя чалавекі ў кажухах, у тым ліку і тая дзяўчына, што размаўляла ў санях, — і елі з агульнай міскі боршч, над якім падымалася пара. Я шукаў маці, але толькі чуў яе голас.

— Адно вочка глядзіць... Саколе мой родны, ні накарміць мы цябе не можам, ні славечка спытаць. Адкуль хоць ты? Як тваё імя?

Цяпер я зразумеў, што гэта — да мяне, што родная маці не пазнала мяне і ніхто не пазнаў, і мне зрабілася страшэнна балюча і крыўдна.

Убачыўшы, што я ў прытомнасці, з-за стала паднялася дзяўчына-санітарка.

— Як ты, родненькі, маешся? Не варочайся. Не хвалюйся. Мы вось коней накорміць заехалі, пагрэцца, а цяпер ужо без супынку — да аэрадрома, каб да ночы там быць...

Але я не чуў і не бачыў яе, бо ў гэты момант побач з ёй стаў мой сын, мой Паўлік. Калі я выходзіў з дому, яму было тры гады.. Паўлік глядзеў на мяне з дзіцячым спалохам і цікавасцю. Я зрабіў яшчэ адно намаганне і працягнуў да яго руку, але ён спалохана адступіў, схаваўся за санітарку. На яго месца стала Вера, мая жонка. Яна пільна ўглядзелася ў мяне, позірк у позірк. Я замёр у чаканні, упэўнены, што зараз яна пазнае мяне, яна не можа не пазнаць, калі паглядзіць так зблізку. Зразумейце, як мне хацелася, каб яна пазнала! І ў той-жа момант трапяталася іншая думка: «А можа лепш, каб не пазнала? Можа лепш»... Яна не пазнавала — я бачыў гэта, і я заплакаў ад роспачы і крыўды. Разам са мной заплакала і Вера. Яна выцерла свае слёзы хустачкай, а потым нахілілася і гэтай-жа хустачкай ласкава і пяшчотна выцерла маё вока, мае слёзы. І тут мне зрабілася страшна — страшна ад думкі, што я магу памерці ў роднай хаце ці пазней і ніхто з блізкіх не будзе ведаць, што гэта быў я, іх сын, муж, бацька. Ніколі я не думаў так аб смерці і ніколі, ні дагэтуль, ні пазней, мне не было так жудасна. Я пачаў знакамі рукой прасіць, каб мне далі паперу і аловак. Але мяне не разумелі. Тады ў роспачы я хацеў сарваць бінты з твару, але санітарка і малады партызан схапілі маю здаровую руку, прыціснулі мяне да ложка. Я кідаўся, вырываўся, плакаў. У хату ўвайшоў бацька. Паведаміўшы, што коні накормлены, ён падышоў да ложка, спытаў.

— Што гэта ён?

— Ды вось, — адказвае яму дзяўчына, — расхваляваўся нечага, павязку зрывае.

Бацька паклаў сваю цяжкую руку мне на лоб, на бінты, уздыхнуўшы, сказаў:

— Супакойся, хлопча. Што зробіш... Не адзін ты пакутуеш за народ. Вось і мой сын, Андрэй, недзе ваюе. Можа і ён дзе ранены. Але ён не будзе вось так хныкаць і бінты зрываць. Не! Ён — мужны і цярплівы. У свайго Андрэя я ўпэўнены.

У адказ на яго словы заплакала маці. А я... я адразу сціхнуў і больш ніколі ўжо гэтак... не панікаваў.





«9 студзеня 1905 года». З карціны мастака В. Макоўскага.

# СЛАЎНАЯ СТАРОНКА МІНУЛАГА

...Вялікая геаграфічная карта былой Расійскай імперыі, якая займае цэнтральнае месца ў адной з залаў Музея Рэвалюцыі СССР, расквечана каляровымі сцяжкамі і іншымі ўмоўнымі знакамі. Асабліва шмат сцяжкоў і знакаў у раёнах, дзе канцэнтравалася ў той час маладая руская прамысловасць.

Гэтая своеасаблівая карта-схема адлюстроўвае рост рабочага руху ў Расіі пасля 9 студзеня 1905 года. І гледзячы на карту, чытаючы шматлікія назвы гарадоў, ахопленых полымем барацьбы, успамінаюцца слаўныя старонкі рускага рэвалюцыйнага руху.

У час рэвалюцыі 1905—1907 гадоў рабочы клас нанёс моцны ўдар царызму. У Расіі бліснуў прамень свабоды. І хоць царызм не быў тады звергнуты, хоць рэвалюцыя была падаўлена, яна адыграла вялікую ролю ў абуджэнні мас, у росце іх палітычнай свядомасці. Рэвалюцыю 1905 года вялікі Ленін ахарактарызаваў, як генеральную рэпетыцыю, без якой перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года была-б немагчымай.

Пачаткам першай рускай рэвалюцыі былі падзеі 9 студзеня 1905 года, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай «Крывавай нядзелі».

Звыш 140 тысяч чалавек складала мірнае шэсце да Зімовага палаца. Па натоўпу безабароннага народа, сярод якога ішло шмат дзяцей, жанчын, старых, цар загадаў войскам адкрыць агонь. Больш трох тысяч забітых і параненых было ў той дзень на плошчы перад палацам. Нельга без хвалявання глядзець на карціну мастака В. Макоўскага, які ўвекавечыў гэтае злачынства царскага самадзяржаўя. З шырока адкрытымі ад жаху вачамі ў зняменні стаяць на плошчы пад дуламі вінтовак царскіх салдат безабаронныя людзі... На скрываўлены снег упалі першыя ахвяры царскага дэспатызму...

Стрэламі, якія прагучалі на Дварцовай плошчы 9 студзеня, была расстраляна вера ў цара, вера ў тое, што цар можа палепшыць жыццё рабочых і сялян. Падзеі «Крывавай нядзелі» адкрылі народу вочы. Рабочыя і сяляне зразумелі, што толькі барацьбой змогуць яны дамагчыся палепшання свайго становішча.

І гэтая барацьба пачалася. Яе ўзначалілі бальшавікі, кіруемыя В. І. Леніным. Бальшавікі кінулі ў масы лозунг усенароднага паўстання і паднялі пытанне аб арганізацыі ўзброенай барацьбы супраць царызма.

Полымя рэвалюцыйнага пажару ахапіла ўсю краіну. Рабочыя Пецербурга, Масквы, Баку, Тіфліса, Рыгі і іншых прамысловых цэнтраў адказалі на падзеі 9 студзеня ўсеагульнай палітычнай стачкай, у якой прыняла ўдзел 440 тысяч рабочых. Студзеньскія падзеі абудзілі да барацьбы з царызмам мільённыя масы працоўных.

Востры характар набыла рэвалюцыйная барацьба на ўскраінах Расіі. Народы, што насялялі ўскраіны царскай Расіі, стагналі пад падвойным прыгнётам—сваіх і рускіх памешчыкаў і капіталістаў. Шырокай хваляй разліўся рэвалюцыйны рух і па Беларусі. На карце-схеме, якая экспануецца ў музеі, мы знаходзім шмат беларускіх гарадоў, у якіх адбываліся адкрытыя ўзброеныя сутычкі з царскімі войскамі. Такія выступленні былі ў Гомелі, Магілёве і іншых гарадах. Працоўныя Мінска, Полацка, Віцебска ў тыя грозныя дні выйшлі на вуліцы і плошчы з рэвалюцыйнымі лозунгамі, з патрабаваннямі прадастаўлення палітычных правоў. Масавыя палітычныя стачкі, забастоўкі салідарнасці з усімі рабочымі краіны выбухнулі ў Мазыры, Барысаве, Рагачове, Шклове, Бабруйску. Разам з рускім пралетарыятам ішлі на рэвалюцыю, на ўзброенае паўстанне супраць царызма рабочыя Беларусі.

Дзень за днём нарастаў у краіне рэвалюцыйны ўздым. У радзе гарадоў былі створаны Советы рабочых дэпутатаў. Горад падтрымлівала вёска. Усё глыбей і глыбей у народныя масы пранікалі словы бальшавіцкай праўды. Бальшавікі вялі сваю работу сярод рабочых, інтэлігенцыі, сялян, салдат і матросаў.

У чэрвені 1905 года выбухнула паўстанне ў Чорнаморскім флоце, і на мачце броненосца «Пацёмкін» узвіўся чырвоны рэвалюцыйны сцяг. Беражліва захоўваюцца ў музеі пагоны кіраўніка паўстаўшых матросаў-пацёмкінцаў А. Мацюшэнкі. У адной з залаў выстаўлены макет легендарнага карабля рускага флоту броненосца «Пацёмкін».

Буйнейшай падзеяй рэвалюцыі 1905 года з'явілася снежаньскае ўзброенае паўстанне. Галоўнай цытадэллю паўстаўшых зрабілася Красная Прэсня ў Маскве — месца жорсткіх бітваў лепшых рабочых дружын супраць царскіх войск.

Вопыт рэвалюцыі 1905 года з'явіўся магутнай зброяй у далейшай барацьбе за звяржэнне эксплуататарскага ладу. Гэты вопыт умела выкарысталі рускія рабочыя і сяляне ў кастрычніку 1917 года.

Р. ДЗМІТРЫЕЎ.




## Як былі зроблены фотапартрэты Леніна

На маю долю выпала шчасце стварыць гістарычную галерэю партрэтаў найвялікшага генія чалавецтва Владзіміра Ільіча Леніна.

Упершыню я ўбачыў Леніна ў 1917 годзе, пасля яго звароту ў Расію з эміграцыі. Праўда, у першы дзень яго прыезду ў Петраград — 3 (16) красавіка — убачыць яго мне так і не ўдалося. Але гэты дзень запомніўся на ўсё жыццё.

У 7 гадзін раніцы, узяўшы з сабою фотаапарат, я вышаў з дому з цвёрдым намерам прайсці да Фінляндскага вакзала і сфатаграфаваць найвялікшую гістарычную падзею — прыезд Леніна. Гэта была нялёгкая задача. На вуліцах, што вялі да Фінляндскага вакзала, было столькі людзей, што яны ўтваралі жывую сцяну, праз якую з маім нязграбным, цяжкім фотаапаратам прайсці было немагчыма. З вялікай цяжкасцю я прабраўся да будынка Артылерыйскай акадэміі, залез на дах і сфатаграфаваў агульны выгляд народнай дэманстрацыі.

Гэтую сваю няўдачу я і цяпер успамінаю з болем.

У далейшым мне даводзілася фатаграфаваць Владзіміра Ільіча ў час яго выступлення ў палацы Кшэсінскай, на мітынгах і ў час з'ездаў.

Владзімір Ільіч надаваў вялікае значэнне ўсім відам мастацтва, у тым ліку і фатаграфіі. Асабліва цаніў ён фотаздымкі гістарычнага характару. Але сам здымацца вельмі не любіў. Ды і часу ў яго не было на гэта: ён заўсёды быў акружаны народам.

Я не адзін раз звяртаўся да Владзіміра Ільіча з просьбай дазволіць зрабіць яго афіцыйны партрэт. Але ён заўсёды адмаўляў у гэтай просьбе. Толькі ў 1918 годзе, калі ўрад пераехаў з Петраграда ў Маскву, мне ўпершыню пашанцавала зрабіць афіцыйныя партрэты правадыра. І то з дапамогаю невялікай хітрасці. Працаваў я ў той час у ВЦВК, загадваў мастацкім і фатаграфічным аддзелам. І вось я задумаў зацікавіць Владзіміра Ільіча сваімі здымкамі на гісторыка-рэвалюцыйную тэму. Шмат у мяне іх сабралася. Я пазваніў у Крэмль сакратару Владзіміра Ільіча і папрасіў, каб яна запыталася, ці зможа Владзімір Ільіч прагледзець мае здымкі гістарычных падзей. Владзімір Ільіч згадзіўся, назначыў час — на заўтра на 12 гадзін — і толькі прасіў не пазніцца.

Назаўтра, захапіўшы, акрамя фотаздымкаў, і свой цяжкі, масіўны фотаапарат з шасцю двайнымі касетамі, 12 пласцінак — усяго вагі каля пуда сабралася — я пайшоў пехатою ў Крэмль (машын і рамізнікаў тады не было) і быў у Крэмлі значна раней 12-ці гадзін.

У прыёмнай Леніна я папрасіў дазволу паставіць свой апарат. Тутжа поўнасцю падрыхтаваў яго для здымкаў.

Калі я ўвайшоў у кабінет Владзіміра Ільіча, ён прывітаўся са мной і сказаў: «Таварыш Оцуп, вы нешта хацелі мне паказаць?» «Владзімір Ільіч, я хацеў паказаць вам сваю работу, каб даведацца, раблю я карысную справу, або дарэмна трачу дзяржаўны матэрыял»,—адказаў я.

Владзімір Ільіч уважліва разглядаў здымкі. Калі справа дайшла да здымкаў 3—5 ліпеня ў Пецербургу, ён заўважыў: «Таварыш Оцуп, вы робіце вялікую справу для гісторыі нашай Радзімы. Абавязкова працягвайце гэтую патрэбную справу».

Разгляд здымкаў набліжаўся да канца, і я рашыў загаварыць пра мэту майго прыходу. «Владзімір Ільіч, у мяне да вас просьба», — сказаў я. «Калі ласка», — адказаў Владзімір Ільіч. «Дазвольце сфатаграфаваць вас для партрэта». «Не варта гэтага рабіць, здымайце больш гістарычных падзей, масу і менш асобных людзей». Тады я набраўся смеласці і хуценька ўнёс у кабінет Леніна фотаапарат, што стаяў за дзвярыма. Ленін вельмі здзівіўся, адкуль тут узяўся фотаапарат. Я адказаў, што прынёс яго на ўсякі выпадак. Владзімір Ільіч усміхнуўся: «Нічога сабе выпадак, такі цяжар насіць, гэта-ж, напэўна, больш пуда будзе». Потым паглядзеў на мяне і сказаў: «Ну, што з вамі зробіш... Я газету пачытаю, пакуль вы падрыхтуеце апарат». А ў мяне апарат быў гатовы. Пакуль Владзімір Ільіч чытаў газету, я зрабіў тры яго здымкі за чытаннем газеты «Правда». Калі Владзімір Ільіч закончыў чытаць газету, ён яшчэ раз сказаў: «А можа ўсё-такі не варта мяне фатаграфаваць». Я настойваў. Тады ён сказаў: «Ну, што з вамі зробіш... Толькі, па магчымасці, хутчэй».

Я зрабіў тады 12 унікальных фотаздымкаў.

З усіх негатываў я зрабіў па 2 партрэты. Калі я паказваў іх Владзіміру Ільічу, ён вельмі здзівіўся, убачыўшы свой здымак за чытаннем газеты і спытаў, калі гэта я яго здымаў. Я расказаў. Ён усміхнуўся: «Вось які вы небяспечны народ, фатографы. Ну што-ж, на ваш сюрпрыз адкажу сюрпрызам», — і на двух сваіх партрэтах зрабіў уласнаручны надпіс.

З маіх шматлікіх фотаздымкаў Леніна самымі папулярнымі з'яўляюцца: «Ленін за чытаннем газеты «Правда», партрэты правадыра, якія друкуюцца на грашовых знаках, профільны партрэт Владзіміра Ільіча, які чаканіцца на ордэне Леніна.

Па ўказанню Владзіміра Ільіча я займаўся фотасправай са школьнікамі і з былымі беспрытульнымі ў дзіцячых калоніях. Многія з іх сталі потым добрымі майстрамі фотасправы і фотарэпарцёрамі.

П. ОЦУП.

# Беларусь спявае

Любіць песню беларускі народ. На працы і ў час адпачынку, за вясельным сталом і на калгаснай сцэне — усюды гучаць песні радасці і шчасця, песні любві і адданасці сваёй Радзіме. Вось калгасніцы выбіраюць лён. І над палеткамі гучыць песня пра лён «Ой, лянок, лянок мой чысты, валакністы, залацісты». Вось трактарыст вядзе магутны трактар, пяе песню, і таму яго работа ідзе спарней, незаўважна бяжыць час.







Пасля работы моладзь сабралася ў клубе, і зноў песні, а затым танцы, гульні.

У кожным калгасе, на кожным заводзе ёсць свае любімыя спевакі, танцоры. Нямала таленавітых самадзейных хораў выступае перад калгаснікамі. Многа песень яны стварылі самі і з поспехам выконваюць іх. Такімі з'яўляюцца Тураўскі хор (Гомельская вобласць), Запольскі хор (Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці), Нясвіжскі хор (Мінская вобласць) і многія іншыя.

У канцы мінулага года ва ўсіх абласцях рэспублікі прайшлі агляды мастацкай самадзейнасці. На іх выявілася многа новых маладых талентаў, новых мастацкіх калектываў.

Многа ёсць у нас і выдатных танцавальных калектываў.

Любяць трактарысты Бельскай МТС Полацкага раёна слухаць частушкі ў выкананні Валянціны Бердашэвіч і Ларысы Казловай. Добра, з гумарам пяюць частушкі дзяўчаты. На здымку (уверсе злева) — Валянціна Бердашэвіч і Ларыса Казлова выконваюць частушкі пад акампанемент баяніста Пятра Бараўкова.

На абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці гледачам спадабаўся літаратурна-музыкальны мантаж «За шчасце народа» ў выкананні калектыва Клецкага раённага дома культуры (здымак злева).

Даўно славіцца сваімі танцамі калектыў Гомельскага палаца культуры імя Леніна, якім кіруе заслужаны дзеяч мастацтва Беларускай ССР А. А. Рыбальчанка.

На здымку ўверсе справа — Тамара Коўжун і Мікалай Гарленка выконваюць танец «Юрачка». Унізе — танцавальны калектыў выконвае рускі танец.

Фото А. Лукашова, С. Капелькі (Фотахроніка БЕЛТА) і А. Дзітлава.



Анатоль ВЯЛЮГІН

# Сустрэча пабрацімаў

Урывак з паэмы

Мал. Ф. Бараноўскага.

Паэт А. Вялюгін закончыў паэму «Бацька Дняпро», прысвечаную дружбе трох народаў — рускага, украінскага і беларускага. Сюжэт твора заснаваны на гістарычным факце: на пярэдадні Пераяслаўскай Рады Багдан Хмяльніцкі паслаў на дапамогу беларусам полк Тарасенкі. Адзін атрад палка Тарасенкі ірваўся да Оршы і быў знішчаны ў няроўнай бітве з войскам Януша Радзівіла. Беларус-паўстанец падабраў на полі бою цяжка параненага казака. Ад варожай пагоні яны ўцякаюць на ўсход. Знясіленых, іх падабрала зімовым досвіткам жанчына з вёскі Раждзествена на рускай зямлі, з той вёскі, ля якой бярэ пачатак рака Дняпро. Раніцай у Раждзествена з'явіліся жаўнеры. Яны знайшлі параненых казака і паўстанца. Руская жанчына сказала, што гэта яе сыны.

Чужынцы іх трох<br>валаклі на мароз<br>да белых і ціхіх,<br>бы свечкі, бяроз.

Жанчына з гаротнымі<br>поруч была,<br>з сумёта, сумотная,<br>іх падняла.

Тры белых бярозы<br>стаяць пад зарой.<br>Тры сэрцы шукае<br>настылая сталь.<br>Зірнула вачамі жанчыны сівой<br>на катаў марозная руская даль.

Глядзіць на жанчыну<br>маўкліва канвой.<br>Прыпаў да яе<br>беларус галавой:



— Матуля... —<br>Успомніў ён<br>край баравы,<br>і Оршы муры,<br>і ў стагах паплавы,

дзе плыт пад зарою<br>вязала вясна,<br>над шэрай страхою<br>рунела сасна.

Паліла там маці<br>у час навальніц<br>свянцоныя травы<br>ў агні бліскавіц,

пярун каб не ўдарыў<br>з гарматы ў сяло...<br>Ды ўсё там пажарам<br>у хмары пайшло.

Другая матуля<br>цяперака з ім.<br>І побач — разуты<br>чэркас-пабрацім.

Няма хоць і хмары,<br>ды знаюць яны:<br>у твар ім ударыць<br>зімой перуны.

Ні бляску. Ні стрэлаў...<br>Паставіў каўнер<br>ад сцюжы ссінелы,<br>сіпаты жаўнер.

Трывожна і страшна<br>пад лютай зарой:<br>на тысячы вёрст ледзянее зіма.<br>На ляхаў<br>вачамі жанчыны сівой<br>Масковія быццам глядзела сама.

Прамовіўшы: — Маты... —<br>з усмешкай казак<br>на поўдзень зірнуў,<br>дзе іскрыцца бальшак.

Калісь яго маты<br>ўцякала сюды<br>ад бахчысарайскай<br>праклятай арды.

Такая-ж...<br>маршчынкі...<br>лягла сівізна...<br>Падумаў нябога:<br>напэўна, яна.

Эх, шаблю цяпер-бы!<br>Грымі пад канём,<br>дарожанька ў вербах<br>над бацькам-Дняпром!

Дарожанькай гэтай<br>у дым і туман<br>паслаў яго гетман<br>Хмяльніцкі Багдан.

З палком Тарасенкі<br>ляцеў, як віхор,<br>калышучы<br>помсты пажары<br>да зор.

Страшэнны нялічаных<br>шабляў удар —<br>крычала пад Крычавам<br>зграя рэйтар.

Насустрач на ростані<br>беглі з сяла,<br>і звонам у Рослаўлі<br>слава расла.

За Ельняй, дзе ельнік<br>у полі глухім,<br>хай сніцца Украіна<br>сябрам баявым.

Паслан там у полі<br>абрус крумкачам...<br>Дзе шабля, што волю<br>нясла мужыкам?

Дзе полк Тарасенкі?..<br>З тугой небарак<br>зноў змерыў вачамі<br>на поўдзень бальшак.

І сэрцам пачуў ён<br>прыціхлы майдан:<br>на ўвесь Пераяслаў<br>гаворыць Багдан.

Над новым памостам<br>зіхціць раніцой<br>Успення сабор<br>залатой<br>галавой.

А вецер калыша<br>харугвы палкоў<br>ды чэша бароды<br>маскоўскіх паслоў.

То слухае Раду<br>пасольства Крэмля.<br>Як Радзе ўся рада<br>Украіны зямля!

Малінавым звонам<br>звініць цішыня.

Над дахам,<br>над клёнам,<br>над грывай каня,

над дзікім раздоллем —<br>куды ні зірні —<br>малінавых сцягаў<br>шугаюць агні.

— Мы з рускім народам<br>адзіны навек! —<br>крыляе над сінімі<br>кручамі рэк.

І тут на Валдаі,<br>дзе смерць і палон,<br>з казацкага краю<br>той заклік чуцён.

— Навекі?..<br>— Навекі!.. —<br>матулі ў адказ<br>гаворыць аршанец<br>і босы чэркас.



Тры ціхіх бярозы пад дымнай зарой.<br>Тры сэрцы — іх мерай смяротнай не мер.<br>Прад імі застыў у трывозе канвой.<br>Пістоль упусціў спалатнелы жаўнер.

У свет пагаворка<br>ідзе нездарма,<br>што смерці казачай<br>на свеце няма.

Бязносая пані,<br>касу палажы!<br>Кругом у тумане<br>пяюць палазы.

З Масквы да Валдая<br>у сонных лясах<br>пад войскам спявае<br>заснежаны шлях.

Ужо за парканам —<br>убачыў казак —<br>палаюць каптаны,<br>як ліпеньскі мак.

Пад посвістам куль<br>напрасцяк — малайцы! —<br>бягуць адусюль<br>пад бярозы стральцы:

— Мы шаблямі злічым<br>галоў качаны!..

— Парыеце лычам<br>сумёты, паны!..



Пасля да жанчыны<br>прыпаў старшына:<br>— Матуля... —<br>І сына<br>пазнала яна.

Як быццам знялі<br>тваё сэрца з ляза:<br>і шчасця сляза,<br>і пакуты сляза.

На снег, бы ў тумане,<br>не чуючы ног,<br>схіліўся аршанец,<br>казак побач лёг.

Стралецкі суровы<br>арол-старшына<br>над імі гавора:<br>— Стаміла вайна...

І колькі ў ягоных<br>вачах дабраты!

Падняў ён стамлёных:<br>— Здарова, браты!

Яўген ВАСІЛЁНАК

# МЫ—СТУДЭНТЫ

Нарыс



**Студэнты Мікалай Даражкоў** (справа) **і Пётр Жураўлёў у лабараторыі агульнага курса чыгунак.**
Фото М. Мінковіча.

У гэтым нарысе пойдзе гаворка аб адной з самых маладых навучальных устаноў рэспублікі — Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту. Але пачаць гэтую тэму нам хочацца здалёк.

Гэта было некалькі год назад. Фотакарэспандэнт адной з газет Барыс Мельнікаў па заданню рэдакцыі ехаў на станцыю Якімаўка. Там ён павінен быў зрабіць фотанарыс аб тым, як жывуць, працуюць і адпачываюць чыгуначнікі гэтай станцыі.

Накіроўваўся ў Якімаўку Мельнікаў з неахвотай. Ён быў упэўнены, што ніякага нарыса ў яго не атрымаецца, бо што цікавае можна расказаць пра станцыю, дзе пасажырскія паязды нават не прыпыняюцца, дзе ўсяго некалькі будынкаў, а вакол на многія кілометры — голае месца? Працуе ў Якімаўцы, відаць, чалавек дзесяць, ці мо' ад сілы дваццаць. Што і каго там можна сфатаграфаваць?..

Вестка аб тым, што ў Якімаўку прыехаў карэспандэнт з газеты, імгненна абляцела станцыю. І вечарам Барыс быў запрошаны на вяселле. Выходзіла замуж дачка пуцявога абходчыка Фёдара Цімафеевіча Даражкова. Працавала яна таксама на чыгунцы і замуж ішла зноў-жа за чыгуначніка.

Як і на кожным вяселлі, у хаце Фёдара Цімафеевіча было шчасліва і шумна. За вясельным сталом сышліся ўсе жыхары станцыі, хто толькі не быў у тую хвіліну заняты на дзяжурстве.

Тут Мельнікаў і пазнаёміўся з усімі якімаўцамі.

Многа цёплых, прачулых слоў давялося пачуць Барысу ад прысутных пра сям'ю старога чыгуначніка Фёдара Цімафеевіча Даражкова. Шмат гадоў працуе ён пуцявым абходчыкам і ўсё на адным і тым-жа акалотку. Замацаваны за ім участак шляху ён ведае літаральна не горш за свае пяць пальцаў. Любілі чыгунку і ўсе астатнія члены сям'і Фёдара Цімафеевіча. Не меў пакуль што непасрэднага дачынення да транспарту толькі адзін Мікалай — малодшы сын: ён вучыўся ў сярэдняй школе.

«Ну, гэты, напэўна, таксама будзе чыгуначнік, — падумаў Мельнікаў. — Яблык ад яблыні недалёка коціцца...»

Вяселле было ў самым разгары, калі Фёдар Цімафеевіч раптам падняўся з-за стала і сказаў:

— Вы тут, дарагія госцейкі, гуляйце, весяліцеся, а я пайду...

Фотакарэспандэнту ён растлумачыў:

— Служба з'яўляецца службай. У абход трэба ісці.

Мельнікаву цікава было, што гэта будзе рабіць ноччу ў абходзе пуцявы абходчык, і ён вырашыў пайсці разам з ім.

Ноч была цёплая, зорная. Яны тупалі па шпалах моўчкі, занятыя кожны сваімі думкамі. У левай руцэ Фёдар Цімафеевіч трымаў ліхтар, які кідаў уперад нядоўгі, але шырокі прамень святла. Калі Даражкоў запальваў гэты ліхтар перад выхадам з хаты, Мельнікаў заўважыў, што ён пабудаваны вельмі цікава; пры жаданні ў ім можна было ў адзін момант пярэдняе белае шкло змяніць на чырвонае або зялёнае, надаючы гэтым самым патрэбны колер святлу. За плячыма ў Даражкова была скрынка з інструментам; там раз-по-раз пры кожным яго кроку бразгалі гаечныя ключы, ніты, кастылі.

— Вось тут пачынаецца мой участак, — нечакана сказаў Фёдар Цімафеевіч і прыпыніўся.

Будынак Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту.



Прыпыніўся і Барыс. Удалечы беглі роўныя стужкі рэек, адбіваючы сваёй адпаліраванай паверхняй дрыготкае святло зорак: гэта рабіла іх падобнымі на бясконцыя срэбныя ланцугі. Навокал стаяла нейкая на дзіва спакойная цішыня. Дыхалася лёгка і вольна.

Фёдар Цімафеевіч выняў са скрынкі гаечны ключ, пацляваў на рукі і нахіліўся над рэйкай. Барыс зразумеў, што ён замацоўвае ніт. Падкруціўшы гайку, пуцявы абходчык зрабіў крок да наступнай.

«Няўжо ён будзе замацоўваць вось гэтак кожны ніт? — падумаў фотакарэспандэнт. — Тады дарэмна я з ім пайшоў. Нічога тут цікавага няма».

Нібы адгадаўшы яго думкі, пуцявы абходчык прамовіў:

— На мінулым тыдні рамонтнікі мянялі на маім участку рэйкі.

— І дрэнна зрабілі сваю справу, так? А вам даводзіцца цяпер перарабляць за іх?

— Не, рамонтнікі зрабілі ўсё як след. Іх работа прынята камісіяй з выдатнай адзнакай. Справа тут вось у чым...

Фёдар Цімафеевіч узяў з зямлі свой ліхтарык і рушыў да наступнага стыка. Прыкладна пасярэдзіне ён зноў прыпыніўся, выняў з скрынкі невялічкі малаточак з доўгай ручкай і стукнуў ім па рэйцы. Пасля прыслухаўся; пачуўшы, відаць, тое, што і трэба было, задаволена працягваў:

— Дык вось, справа, кажу, тут у чым? Праз пяць дзён пасля таго, як рамонтнікі зробяць замену рэек або, напрыклад, накладак, пуцявы абходчык абавязаны другі раз замацаваць ніты. Бо пуць — гэта-ж вам не абы-што. Тут глядзі ды глядзі. Нашто ўжо, здаецца, добра ўсё зрабілі рамонтнікі, але вось і тыдня не прайшло, а ўжо трэба зноў падкручваць гайкі. Бо паязды-ж ідуць, а гэта сіла такая, што яна не толькі гайку адкруціць можа! Чыгуначны пуць увесь час рухаецца, жыве, дыхае.

Гаворачы гэтак, Даражкоў адзін за другім замацоўваў ніты і рабіў гэта настолькі спрытна, што Мельнікаў ледзь паспяваў за ім.

— Вось і канец майго ўчастка, — прамовіў Даражкоў. — Ён складае роўна 1700 метраў. Далей ідзе ўчастак другога пуцявога абходчыка, а там яшчэ аднаго, а там яшчэ і яшчэ... Уяўляеце сабе, колькі нашага брата на Беларускай чыгунцы? А на ўсіх чыгунках краіны?!. Гэта-ж, напэўна, цэлая армія!

Мельнікаў з'яўляўся рэдакцыйным фатографам, гэта значыць, газетчыкам, а таму апошнія словы Даражкова ён у думках выказаў для сябе так: «Але, сапраўдная армія пільных вартавых чыгуначных шляхоў».

Мяркуючы, што на гэтым і скончылася праца пуцявога абходчыка, Мельнікаў зірнуў у той бок, дзе павінна была знаходзіцца хата Даражкова, і памкнуўся рушыць з месца. Але Фёдар Цімафеевіч зноў узяўся за гаечны ключ і зноў пачаў падкручваць тыя-ж самыя гайкі, ідучы цяпер у адваротным напрамку. Ад здзіўлення Мельнікаў у першы момант не ведаў, што і сказаць, пасля ўсё-ж прамовіў:

— Відаць, вы... гэта самае... памыляецеся трошкі. Гэтыя гайкі вы падкручвалі ўжо. Цяпер, мусіць, трэба вунь тыя, што на другім пуці.

— Да тых таксама дойдзе чарга, — спакойна, нібы і не заўважаючы тону Мельнікава, адказаў пуцявы абходчык. — Але і з гэтымі яшчэ не ўсё зроблена. Ніты абавязкова трэба замацаваць у адваротнай паслядоўнасці. Толькі тады яны будуць напружаны роўнамерна. А калі не замацаваць іх другі раз, — ведаеце, што атрымаецца? Не пройдзе і сутак, як той ніт, што замацаваны апошнім, трэсне і абарвецца.

Абгрунтавана, з глыбокім веданнем справы пачаў пуцявы абходчык тлумачыць фотакарэспандэнту, чаму гэта здараецца. І чым далей слухаў Мельнікаў Даражкова, тым з большай цікавасцю глядзеў ён на старога чыгуначніка, з большай павагай ставіўся і да яго самога, і да яго прафесіі.

— Вось, бачыце, закручваў я гайкі, закручваў пастунова, адну за другой. З кожным разам накладкі сціскаліся ўсё мацней і мацней. І чым далей адыходзіў я ад першага ніта, тым ён усё больш паслабляўся, а следам за ім, вядомая справа, паслабляліся паступова і ў той-жа паслядоўнасці іншыя. Цяпер уявіце сабе, што па ўчастку ў такім яго стане пойдзе поезд. На які ніт прыдзецца самая найбольшая нагрузка? Вядомая справа, на той, які замацаваны апошнім. А калі ўлічыць, што нагрузка гэтая немалая, што яна вымяраецца дзесяткамі тон, дык няцяжка здагадацца, што з ім адбудзецца: ён не вытрымае гэтай нагрузкі і трэсне, разарвецца на дзве часткі.

Гэта была цэлая лекцыя аб тым, як трэба утрымліваць чыгуначны пуць, каб ён заўсёды быў у спраўным, надзейным становішчы, каб у любы час машыністы маглі весці паязды, цвёрда ведаючы, што ім не пагражае ніякая выпадковасць. Шмат чаго цікавага даведаўся ў гэтую ноч Барыс Мельнікаў. Не, яму не прыходзілася ўжо шкадаваць, што ён пайшоў у абход з Даражковым.

Наперадзе пачуўся далёкі, прыглушаны гул. Ён усё набліжаўся і набліжаўся, пасля яго заглушыў працяглы паравозны гудок.

— Як бачыце, мы з вамі якраз управіліся ўсё зрабіць, — усміхнуўся Фёдар Цімафеевіч.

Ён лёгка падхапіў сваю скрынку з інструментам і сышоў з насыпу. Мельнікаў стаў побач з ім. Вось ужо відаць поезд, што імкліва ідзе ў свой далёкі шлях. Ад яго цяжкага поступу ўздрыгвае зямля. Пуцявы абходчык узнімае руку з ліхтаром высока ўгару. Гэта — рапарт машыністу:

— Шлях свабодны!

Нібы віхор, праляцеў міма двух радасна ўзбуджаных людзей поезд, — праляцеў і знік у далечыні. А яны стаялі і доўга яшчэ глядзелі яму ўслед.

Бралася на дзень. Гаслі зоркі на небе, прачыналася і заводзіла сваю ўзбуджаную гамонку птаства. Даражкоў і Мельнікаў прыселі на рэйку і закурылі.

— Адкуль у вас такая любоў да чыгункі? — дапытваўся фотакарэспандэнт. — Адкуль?

— Чыгунку нельга не любіць, — проста адказаў пуцявы абходчык. Падумаўшы крыху, ён у сваю чаргу спытаў: — А хіба вы не любіце яе?

І, не чакаючы адказу, ён пачаў расказваць аб тым, як трапіў упершыню на станцыю, як захапіла яго работа людзей, што адпраўляюць і прымаюць паязды, даглядаюць рухомы састаў, сочаць за спраўнасцю чыгункі. З тае пары ні аб чым іншым думаць ён ужо не мог. Пайшоў працаваць спачатку рамонтным рабочым, пасля, набыўшы адпаведныя веды, стаў пуцявым абходчыкам.

А Мельнікаў думаў у гэты час аб сабе. Прафесія фотакарэспандэнта яму вельмі падабалася. Колькі цікавага дае яна! Колькі адбываецца сустрэч! Здымаў ён, напрыклад, калісьці аднаго маладога спартсмена па прозвішчу Злотнікаў. Тады гэта быў нікому яшчэ не вядомы фізкультурнік, які рабіў першыя крокі ў спорце. А цяпер хто не ведае славутага П. А. Злотнікава, майстра спорту СССР? Або вось такі факт. Зусім нядаўна Мельнікаў фатаграфаваў маладую дзяўчыну, студэнтку Гомельскага чыгуначнага тэхнікума Ніну Пузан. Учора ён даведаўся, што Ніна паехала на рэспубліканскія спаборніцтвы лёгкаатлетаў. Яна таксама будзе выдатнай спартсменкай, ён упэўнены ў гэтым. І наперадзе ў іх будзе нямала сустрэч у самых нечаканых месцах, у самых розных гарадах. А колькі знаёмых у яго сярод вучоных, настаўнікаў, рабочых, калгаснікаў! Болей-жа за ўсё ў Барыса знаёмых сярод чыгуначнікаў. Яму даводзілася даваць у газеты матэрыялы аб многіх машыністах, дыспетчарах, кандуктарах, пуцевіках беларускіх магістралей. Якая, сапраўды, цікавая ў іх праца! І на запытанне Фёдара Цімафеевіча, ці любіць ён чыгунку, Мельнікаў з поўным правам мог-бы адказаць:



Студэнт Міхаіл Кучма ў чытальнай зале за вывучэннем твораў класікаў марксізма-ленінізма.

— Так, я люблю чыгунку! Люблю яе людзей—адзін з перадавых атрадаў нашага слаўнага рабочага класа! Калі-б не быў фатографам, дык, можа, і сам стаў-бы чыгуначнікам... Вось толькі ведаў патрэбных у гэтай галіне няма...

А пуцявы абходчык між тым працягваў у задуменні:

— Мне вельмі прыемна было, калі дачка пайшла па бацькавай дарозе. Вось і муж у яе цяпер — таксама чыгуначнік... Адно непакоіць мяне — сын Мікалай.

— А што з ім? — занепакоіўся Мельнікаў.

— Не ў бацьку, відаць, удаўся. Пра лётчыкаў трызніць. Нічога цікавага, кажа, у тваёй прафесіі не бачу...

— Можа яшчэ абдумаецца.

— Наўрад...

... У гэты дзень Мельнікаў абхадзіў усю станцыю. Пагаварыў ледзь не з кожным і сфатаграфаваў ледзь не кожнага. У яго атрымаўся, казалі ў рэдакцыі, добры фотанарыс аб калектыве невялічкай станцыі Якімаўка. Толькі сам Мельнікаў быў незадаволены нарысам. Ён ведаў, што яму не ўдалося як след адлюстраваць у газеце захапляючую працу чыгуначнікаў з Якімаўкі, іх жыццё, прыгажосць іх сэрцаў.

Незадаволенасць сабой, сваёй работай з цягам часу ўзрастала і ўзрастала.

Праходзілі тыдні, месяцы.

Летам 1953 года рэспубліку абляцела вестка: у Гомелі адкрываецца новая навучальная ўстанова — Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Вестка гэтая пайшла і далей, за межы рэспублікі. Дайшла яна да чыцінца Альберта Галішнікава, да алмаацінца Міхаіла Кучмы — і яны прыехалі ў Гомель. Паступілі ў новы інстытут Пётр Жураўлёў — сын калгасніка з вёскі Матораўка Кармянскага раёна, Барыс Маргуноў — выхаванец Гомельскага чыгуначнага тэхнікума, Віктар Сідуноў — выхаванец Аршанскага тэхнікума, Васіль Мацяс — выдатны спартсмен, рэкардсмен спартыўнага таварыства «Лакаматыў» і рэспублікі па бегу, і многія, многія іншыя. Узначаліў новую вышэйшую ўстанову заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Узбекскай ССР Аляксей Аляксеевіч Петруковіч. Выкладаць прыехалі сюды доктар тэхнічных навук прафесар Мікалай Іванавіч Каракін, доктар фізіка-матэматычных навук прафесар Сяргей Антонавіч Чуніхін, кандыдат тэхнічных навук Мікалай Іванавіч Тышкевіч, Герой Савецкага Саюза Аляксандр Філімонаў, які сам нядаўна скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, а разам з імі і яшчэ цэлы шэраг выкладчыкаў, выдатных знаўцаў сваёй справы.

Прафесар М. І. Каракін праводзіць са студэнтамі механічнага факультэта заняткі ў лабараторыі.



Інстытут размясціўся ў адным з прыгажэйшых будынкаў горада. Да паслуг студэнтаў— добра абсталяваныя аўдыторыі, лабараторыі, чытальная зала, бібліятэка, спартыўная зала, памяшканні для заняткаў гурткоў мастацкай самадзейнасці. Тут-жа ёсць і сталовая. Непадалёк ад вучэбнага корпуса — будынкі інтэрната. Інстытут мае нават свой начны санаторый.

1 кастрычніка 1953 года адбылося адкрыццё БІІЧТ'у. Перад пачаткам заняткаў у вестыбюлі і калідорах інстытута ў той дзень можна было ўбачыць неадменных ўдзельнікаў такіх і да іх падобных падзей — рэпарцёраў, фотакарэспандэнтаў, кіноаператараў.

Быў сярод іх і Барыс Мельнікаў. Ён таксама рабіў здымкі. Праўда, на гэты раз Мельнікаў ні ад адной рэдакцыі не меў пэўнага задання.

У гэты дзень Мельнікаў зрабіў багата цікавых здымкаў. Ён зафіксіраваў на плёнцы першыя крокі па авалоданню нялёгкімі ведамі кіравання складаным чыгуначным канвеерам сына рабочага з Оршы, маладога калгасніка з Брэстчыны, дзяўчыны з Палесся, чарцёжніка з Мінска, кінамеханіка з Віцебшчыны... І зноў адбываліся сустрэчы, якія не маглі не хваляваць.

У групе юнакоў і дзяўчат, што аб нечым ажыўлена гутарылі каля адной з аўдыторый механічнага факультэта, Мельнікаў заўважыў сваю колішнюю знаёмую Ніну Пузан.

— А вы, прабачце, што тут робіце? — спытаў ён у яе.

— Я — студэнтка, — ветліва ўсміхаючыся, адказала Ніна. — А вы?

Адказ Ніны Пузан не з'явіўся нечаканасцю для фотакарэспандэнта. Затое адказ Мельнікава прымусіў Ніну пільна зірнуць яму ў твар.

— Я? — перапытаў Мельнікаў. — Я таксама студэнт!

— Студэнт? — здзівілася Ніна. — Нашага інстытута?

— Нашага! — горда адказаў Мельнікаў.

Так, Барыс Мельнікаў вырашыў стаць інжынерам-чыгуначнікам. Не, канчаткова закінуць фотаапарат ён не думае. Фотаапарат па-ранейшаму будзе яго спадарожнікам, яго сябрам на ўсё жыццё. Але асноўная прафесія будзе іншая.

У спартыўнай зале Інстытута. Студэнты будаўнічага факультэта на занятках па гімнастыцы.



Паўлюк ПРАНУЗА

## Сноп пшаніцы

Колькі ні глядзіш, а надзівіцца
Немагчыма — гэткі экспанат.
І адкуль такая тут пшаніца?
Што ні колас — прыгаршчы зярнят.

Хто ні прыдзе, стане, запытае:
— А няўжо ў нас такі ўраджай?
Можа хто прывёз яе з Алтаю
Ці прыслаў сюды поўднёвы край?

Хто вырошчваў? Акадэмік знатны?
Вось-бы нам такую на палі...

У адказ мічурынцы-юннаты:
— Вырасцілі на сваёй зямлі.

І знікае ў душы сумненне,
Верыш працы, ўпартасці людской.
Сноп высокі, з бронзавым адценнем,
Туга падпяразан рушніком.

Не адзін такі ён у раёне
Выстаўлен — вусаты, залаты.
Нават у сталічным павільёне
Ёсць яго паплечнікі, браты.

Мікола АРОЧКА

## Перад жнівом

Не ўпершыню сёння наша жытное
За небаракай разлілося...
Шэпча, трывожыцца, нібы жывое,
Перада мною калоссе.

Чым ты ўсхвалёвана, спелае жыта,
Свой неспакой не ўтаймуеш?
Пэўна чакаеш ты рук працавітых
І па камбайнах сумуеш?

Я ўсхваляваны. Чакаючы працы,
Жыта абходжу сцяжынкай.
Кажуць, як зерне разломіш у пальцах —
Смела выходзь на зажынкі.

Заўтра я выйду у поле не пешшу,
А на машыне уранні...
Сэрцу-ж майму, як і ніве даспеўшай,
Не ўтаймаваць хвалявання.

Гэтую прафесію набываюць зараз у Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту больш за 800 юнакоў і дзяўчат. У адных жаданне зрабіцца чыгуначнікам нарадзілася даўно, яшчэ ў дзяцінстве, бо іх бацькі таксама былі чыгуначнікамі; другія да самага апошняга часу не ведалі, па якой дарозе яны пойдуць у жыццё і толькі ў самы апошні момант зрабілі свой выбар. Міхаіл Кучма, напрыклад, ні хвіліны не вагаўся, калі перад ім паўстала пытанне — кім быць. Дэмабілізаваўшыся з арміі, ён адразу сказаў сабе:

— Маё месца — на чыгунцы.

Міхаіла вабіла спецыяльнасць паравозніка. Ён паступае ў школу паравозных машыністаў. Але, каб атрымаць правы кіравання лакаматывам, трэба наездзіць на паравозе ў якасці памочніка машыніста не менш як 25 тысяч кіламетраў. І вось, займаючыся ў школе (тут трохгадовы курс навучання), Кучма зрабіў на паравозе шлях, роўны трыццаці тысячам кіламетраў! Ды і гэта яшчэ не ўсё. Аднача-сова Міхаіл займаўся ў завочным чыгуначным тэхнікуме і бліскуча скончыў яго. З двума дыпломамі аб сканчэнні спецыяльных чыгуначных навучальных устаноў ён і прышоў ў БІІЧТ. Цяпер Кучма—адзін з лепшых студэнтаў інстытута, першы кандыдат на атрыманне сталінскай стыпендыі.

А вось Пётр Жураўлёў яшчэ 2—3 гады назад вельмі цьмяна ўяўляў сабе, што такое, скажам, дыспетчар. Жыў ён у вёсцы Матораўка, што ў Кармянскім раёне, і чыгуначнікаў нават у вочы не бачыў. У суседняй вёсцы быў яго стрыечны брат Яўген Нікішын. Сустракаліся браты рэдка, бо Яўген даўно паехаў у горад і там недзе вучыўся. Пётр ведаў толькі, што ён заканчвае нейкую спецыяльную навучальную ўстанову. Аднойчы Яўген прыехаў у адпачынак. Наведаў ён і Жураўлёвых. На ім быў чорны шынель з бліскучымі гузікамі, прыгожая шапка з зорачкай і яшчэ нейкай эмблемай над ёю, на плячах — срабрыстыя пагоны з адным прасветам.

— Хто-ж гэта ты, а? — у захапленні спытаў Пётр.

— Чыгуначнік! — з пачуццём уласнай годнасці адказаў Яўген.

Яны доўга гутарылі тады, аж да самай ночы. І столькі цікавага пачуў Пётр, што да рання не мог заснуць, — усё думаў і думаў.

Чыгуначнік! Інжынер чыгуначнага транспарту! — Вось кім ён будзе!

Сярэднюю школу Пётр Жураўлёў скончыў з залатым медалем. Тут, у інстытуце, ён таксама выдатнік. Камсамольцы эксплуатацыйнага факультэта аказалі яму вялікае давер'е, абраўшы комсоргам.

Інстытут існуе ўсяго толькі другі год. Ён яшчэ толькі ўбіраецца ў сілу. Няма ў яго, вядома, багатай спадчыны, значных традыцый, належнага вопыту. Ды ўсё гэта — справа нажыўная. Бо ёсць самае галоўнае — цвёрдае жаданне выкладчыкаў і студэнтаў зрабіць Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту адной з перадавых навучальных устаноў рэспублікі.

У навучальную ўстанову, якая рыхтуе камандзіраў транспарту—людзей рамантычнай прафесіі — прыходзяць часам і тыя, якія некалі марылі аб чымсьці іншым, але потым пераканаліся, што іх месца там, дзе ні на хвіліну не замірае рытмічны рух канвеера, што працягнуўся па краіне на дзесяткі тысяч кіламетраў, там, дзе несціхана лунае песня паравозных гудкоў. І тут мы вымушаны расказаць яшчэ пра адну сустрэчу, што адбылася ў Барыса Мельнікава. Не, не пра сустрэчу з майстрам спорту П. А. Злотнікавым, хоць яна таксама мела месца (вядомы спартсмен стаў адным з выхавацеляў былога фотакарэспандэнта — ён узначальвае ў інстытуце кафедру фізічнага выхавання і спорту). Мы маем на ўвазе іншую сустрэчу.

Здымаў аднойчы Мельнікаў групу студэнтаў. Па сваёй газетнай звычцы пачаў акладна запісваць прозвішчы ў блакнот, бо былі гэта студэнты з другога факультэта, дзе Барыс мала каго ведаў. Запісаў аднаго, другога. Дайшла чарга да невысокага чарнявага юнака.

— Тваё прозвішча? Імя?

— Даражкоў Мікалай, — адказаў юнак.

— Як, як? — перапытаў Мельнікаў. — Даражкоў, кажаш? — Ён задумаўся на хвіліну, нібы адшукваючы нешта ў сваёй памяці. — Ці не з Якімаўкі будзеш?

— Ага, з Якімаўкі.

— Фёдара Цімафеевіча сын? Пуцявога абходчыка?

— Але. Відаць, з анкетай даводзілася знаёміцца?

— Жыццё, дарагі Мікалай, ні ў якую анкету не ўцісне ш. Гэта вельмі шматгранная рэч... І я вельмі рады за Фёдара Цімафеевіча. Ведаю — ён задаволены табою... А наогул — гэта дужа здорава, што мы з табой — студэнты, і іменна гэтага інстытута!

Раман САБАЛЕНКА

# ГАВОРЫЦЬ МАСКВА

Сотні кіламетраў аддзяляюць вёску Асташына ад сталіцы нашай Радзімы Масквы. Але Масква блізка, яна як-бы тут, у Асташыне, у Загор'і-Сененскім, у Залозках, у Навасёлках, у Нянькаве. Улетку на світанні, а зімой задоўга да яго ў кожнай хаце, на плошчы перад праўленнем калгаса, у новым прасторным клубе, што пабудаваны нядаўна пры гасцінцы, — усюды чуецца: «Гаворыць Масква!» Велічныя гукі Гімна Савецкага Саюза ўліваюць бадзёрасць у сэрцы людзей і, несучы іх у сэрцах, людзі ідуць на працу.

Так, Масква ўсюды і заўсёды з намі! Яна — святло розуму, глыбіня думкі, крыніца мудрасці чалавечай. Таму кожнае слова, пасланае ёю ў эфір, на ўсёй неабсяжнай Радзіме нашай слухаецца і ўспрымаецца, як парада клапатлівай маці, як загад уласнага сэрца.

Зімовы вецер аж шалее, ён свісціць, скуголіць, кідаецца ахапкамі снегу, забіваецца ў кожную шчыліну. Асабліва ён накідваецца на клуб, што стаіць на ўзвышшы пры дарозе. Тут, у чыстай прасторы, няма яму за што зачапіцца, і таму ён, як-бы сабраўшы ўсе свае сілы, урываецца ў вокны, у дзверы. У грубцы ціха патрэсквае цяпельца, і камсамольцы, згуртаваўшыся вакол грубкі, перакідваюцца словамі, жартамі. Толькі стары вартаўнік клуба Недабольскі Казімір Сямёнавіч, нібы нічога не чуючы, засяроджана памешвае кіёчкам цяпельца ў грубцы і, кідаючы позірк на моладзь, як-бы асвятляецца ціхай, лагоднай усмешкай. Яму, старому чалавеку, радасна глядзець на моладзь — на гэты цвет жыцця. Ёй так цяпер хораша, перад ёй такія шырокія шляхі-дарогі!..

— Гэта-ж дзіва, дый годзе! — гаворыць сакратар камсамольскага камітэта Фёдар Шкляр. — Надоечы прыходзіць да мяне маці Паўла Моніча дый гаворыць: «Можа-б ты, Федзя, пастараўся мне як-небудзь радыё ў хату правесці, а то глуха зусім».

— Няўжо прыходзіла!? — перапытаў брыгадзір пятай паляводчай брыгады камсамолец Юрка Талака. — А ты памятаеш, як яна тады, калі мы хацелі ёй правесці радыё, лемантавала: «Мне дактары забаранілі слухаць радыё, у мяне аж у вушшу ляскае, калі яно гаворыць».

— Яна і да мяне прыходзіла ўжо, — азваўся радыст Іван Філон.

Стары Казімір Сямёнавіч слухаў гаворку камсамольцаў і ўспамінаў былое.

— Гэта, акурат, як калісь мікалаеўскія міністры з Паповым — вынаходцам радыё — абыйшліся... — нарэшце зазначыў ён.

І стары расказаў камсамольцам, як тады, калі ён служыў ніжнім чынам у Балтыйскім флоце, паміж матросаў хадзіла гаворка, што міністры ды вышэйшыя чыны не прынялі вынаходства інжынера Папова, і як матросы абураліся тупасцю царскіх улад.

Дзед Казімір часта, седзячы ля грубкі, памешваючы цяпельца, расказвае камсамольцам пра рэвалюцыю 1905 года, пра тое, як за ўдзел у «матроскіх бунтах» яму «прывярылі» восем месяцаў арыштанцкіх рот. Тады дзед быў у Петраградзе. Усё гэта жыва захавала памяць старога чалавека. Моладзь слухае яго стаіўшы дыханне. Ды і як не слухаць: дзед Казімір — жывы сведка тых падзей, пра якія можна прачытаць толькі ў кнігах.

Можа-б доўга яшчэ ішла гаворка, але хутка народу сабралася так многа, што ўжо нехапала для ўсіх месца ля грубкі. Тады сакратар камітэта камсамола Фёдар Шкляр адкрыў камсамольскі сход.

— Мы, таварышы, сёння сабраліся, каб вырашыць, які ўдзел павінны прымаць камсамольцы ў развіцці жывёлагадоўлі. Паляводства ў нас, як кожны сам ведае, ідзе ўперад. Адзін лён дасць каля трох мільёнаў рублёў прыбытку. Такія камсамольцы, як брыгадзір Юрка Талака, звеннявыя Екацярына Цішук, Соф'я Кавеліч, нарыхтоўшчыкі торфу на ўгнаенне Віктар Гірыс, Рыгор Людвіковіч, Васіль Ківач, шмат чаго зрабілі для таго, каб узняць ураддівасць нашых палёў. І гэта мы ўсе адчуваем: калі летась ураджайнасць збожжавых склала 7,8 цэнтнера з гектара, дык сёлета яна павысілася да 12 цэнтнераў. А чаму? Бо камсамольцы і ўсе калгаснікі ўзяліся як мае быць за гэтую справу. А вось з жывёлагадоўляй не ўсё яшчэ добра. Пра тое, што трэба зрабіць, няхай нам раскажа Марыя Чудоўская.

Да трыбуны ўпэўненай хадой падыйшла загадчыца малочна-таварнай фермы Марыя Чудоўская.

— Я доўга гаварыць не збіраюся. Мне здаецца, што вы ведаеце, чым павінна стаць у калгасе жывёлагадоўля. А у нас пакуль на фермах няма яшчэ парадку. Надоі — крыху больш за тысячу літраў на фуражную карову. Гэта-ж вельмі мала. Механізацыя працаёмкіх працэсаў ідзе марудна. Я надоечы чула па радыё, як у адным калгасе Маскоўскай вобласці камсамольцы пайшлі працаваць на фермы. Хутка там парадак і лад стаў. Заклікаю і нашых камсамольцаў узяць прыклад з масквічоў.

Камсамольскі сход пасля доўгага і ўважлівага абмеркавання прыняў рашэнне: паслаць на фермы 31 камсамольца. Вера Ермак, якая ўвесь час уважліва слухала выступаючых, папрасіла слова.

— Прашу мяне паслаць даяркай на ферму... Я скончыла сярэднюю школу. Мне родная савецкая ўлада дала асвету, і цяпер веды, якія я атрымала ў школе, прымяню ў рабоце на ферме.

Перад гэтым Вера Ермак доўга думала над сваёй будучыняй. Яна не адзін раз слухала па радыё выступленні камсамольцаў, якія скончылі сярэднія школы і ішлі працаваць на вытворчасць, і ў думках цвёрда вырашыла стаць даяркай у калгасе, паказаць прыклад у працы.

Гэты сход закончыўся позна ўвечары. Ужо Масква расказала ўсяму свету аб апошніх падзеях, ужо адзвінела музыка і дыктар абвясціў аб уключэнні Краснай плошчы. Камсамольцы, выходзячы з клуба, чулі меладычны звон курантаў, які заўсёды ў сэрцы кожнага савецкага чалавека будзіць пачуццё невыказнай радасці. Стары Казімір глядзеў услед камсамольцам і крыўдаваў на тое, што гады яго бяруць сваё і, як ні храбрыся, гэта часта даводзіцца адчуваць. Аднак і яго не абмінаюць. Радасць ахапіла старога, калі ўвосень старшыня калгаса Пятро Кур'яновіч прышоў да яго і прапанаваў:

— Збірайся, дзядзька Казімір, у Маскву на выстаўку паедзеш.

Камсамольская сям'я калгаса «Комунар» — дружная, арганізаваная. Яна аб'ядноўвае ў сваіх радах 170 юнакоў і дзяўчат. Шэсць камсамольскіх груп працуюць у паляводчых брыгадах. Важак камсамольцаў — галоўны бухгалтар калгаса Фёдар Шкляр, выступаючы нядаўна на Любчанскай раённай камсамольскай канферэнцыі, расказаў каротка пра слаўныя справы камсамольцаў пятай паляводчай брыгады, якою кіруе Юрка Талака, пра лепшую свінарку Веру Кавеліч, якая летась атрымала па 14 парасят ад 8 свінаматак, захавала ўвесь прыплод і за гэта сёлета была паслана на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку, пра звеннявую Екацярыну Цішук, якая, праслухаўшы па радыё перадачу аб тым, як падрыхтоўваць лён да мяцця, вырашыла ў сваім звяне праверыць парады на практыцы. Яна паспрабавала лён, выняты з сушылкі, пакласці на адлежку, а пасля яго церці. І атрымалася куды лепшае валакно. Цяпер усе звеннявыя следам за Екацярынай Цішук робяць гэтак. Калгас атрымаў дзесяткі тысяч рублёў дадатковага прыбытку. Фёдару Шкляру хацелася расказаць аб усіх слаўных справах калгасных камсамольцаў. Аб тым, як яны ў 1949 годзе ў вёсцы Загор'е-Сененскае пабудавалі на рэчцы гідраэлектрастанцыю на 27 кілават, як пасля вырашылі пабудаваць радыёвузел. Добра запомніліся Шкляру словы старога чалавека, звеннявога па тытуню Максіма Сакевіча. Правялі яму ў хату камсамольцы радыё. Ён цэлы дзень не адыходзіў ад рэпрадуктара, а калі назаўтра ў яго запыталі, дык ён сказаў:

— У мяне, браточкі, цяпер такі слых, што я са сваёй хаты Маскву чую.

І цяпер больш ужо як у трохстах калгасных хатах слухаюць Маскву. Яна кожны дзень вядзе шчырую гутарку з асташынцамі, загор'е-сененцамі, навасёлкаўцамі, вучыць іх, як лепш працаваць, адпачываць, культурна жыць...

І ў тым, што калгас «Комунар» стаў мільянерам адным з першых у раёне, што жыццё калгаснікаў стала заможным і культурным, значную ролю адыграла камсамольская арганізацыя. Камсамольцы ўсюды першыя. У вытворчых брыгадах, у жывёлагадоўчых цэхах — на ўсіх работах камсамольская моладзь паказвае прыклад. І не толькі ў вытворчай дзейнасці. Нядаўна на раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці харавы калектыў калгаса зачараваў прысутных сваімі песнямі. Паводле рашэння журы калектыў быў пасланы на абласны агляд. Там таксама выступленне хора карысталася ўсеагульнай павагай.

Вясной камсамольцы вырашылі звярнуцца да праўлення калгаса з прапановай пабудаваць клуб. Праўленне падтрымала ініцыятыву камсамольцаў. І вось на працягу лета камсамольцы і моладзь нарыхтоўвалі саман, вазілі лес, цэглу, будавалі сцены. У дзень Кастрычніцкіх свят клуб урачыста адкрыўся. На адкрыцці прысутнічалі госці з калгасаў «Зара камунізма», «Вялікі Кастрычнік», «Сцяг Саветаў». Моладзь зайздросціла камсамольцам «Комунара». Такога клуба не было яшчэ ў раёне. Прасторная, на 500 чалавек зала, яркае электрычнае святло, утульнасць — усё гэта вабіць моладзь ісці ў свой клуб. А хутка будзе створан і духавы аркестр.

Зімовыя лютыя халады скавалі маўклівую зямлю. Але не пуста, не сумна і ў гэты час у калгаснай вёсцы. Кожную раніцу людзі чуюць радасныя словы — «Гаворыць Масква!»

І ў гэтых словах яны адчуваюць невычэрпную крыніцу чалавечай радасці. Працоўныя будні комунараўцаў поўныя творчых узлётаў. Пад неўмiручыя, вечна маладыя гукі Гімна Савецкага Саюза людзі ідуць на працу, пад меладычныя гукі Крэмлёўскіх курантаў яны кладуцца адпачываць. Радаснае, шчаслівае жыццё ў калгаснікаў сельгасарцелі «Комунар».

Гродзенская вобласць.

Слухаюць дзіцячую перадачу.

Фото Р. Каралёва.






Янка МАЎР

**Навукова-фантастычная аповесць***

Мал В. Ціхановіча.

**Запрашэнне ў госці**

Святлана прачнулася з такім пачуццём, нібы ёй нешта перашкаджае. Села, працёрла вочы, азірнулася — і з жудасным крыкам ухапілася за плечы брата. Той усхапіўся, некаторы час глядзеў, нічога не разумеючы, а потым убачыў у галавах двух яхаў. Яны нерухома сядзелі і ўважліва глядзелі на гасцей.

— А-а! Старыя знаёмыя! Добры вечар, таварышы!

Але «таварышы» не варухнуліся: яны таксама пільна глядзелі, нібы вывучаючы гасцей, і ў іхніх вачах заўважалася нешта недружалюбнае. І выгляд іх некалькі адрозніваўся ад ранейшых яхаў. Колер гэтых быў з бурым адценнем. Цела здавалася даўжэйшым і дужэйшым. Твары былі больш прадаўгаватыя і менш добрадушныя.

Светазар памацаў сваю кішэню, дзе ляжаў браўнінг... Святлана, дрыжучы, прыціснулася да брата.

Адзін з яхаў павярнуў галаву да другога і буркнуў некалькі слоў, з якіх можна было разабраць слова «бао».

— Цікава паслухаць, што яны там буркаюць, — сказаў Светазар, устаў і дастаў з машыны шапкі-перадатчыкі. Яхі з сур'ёзнай уважлівасцю сачылі, як незнаёмыя стварэнні рухаліся і нешта рабілі. Ізноў адзін з іх нешта другому сказаў. З гэтых слоў падарожнікі зноў пачулі слова «бао» і зразумелі слова «ісці».

— Чорт яго ведае, што гэта за «бао»! — сказаў Светазар. — Па вобразу адчуваецца, што гэта як быццам нейкі важны ях, цар іхні, ці што.

— І я таксама зразумела так,— сказала Святлана.

Яхі тым часам апусціліся на пярэднія лапы і зачыкільгалі ў глыб даліны.

Светазар паціснуў плячыма і збянтэжана сказаў:

— Што ўсё гэта азначае? Ці не пайшлі яны да нейкага свайго князя Бао?

Дзяўчынка пакацілася ад смеху:

— Князь! Ха-ха-ха! Мядзведжы князь!

Смяяўся і Светазар, але пры апошнім слове сястры сурова перапыніў яе:

— Святланка! Ты не маеш права здзеквацца з якой-бы там ні было асобы, хай сабе будзе яна падобнай і да мядзведзя.

— Я не з гэтых «асоб» смяюся, — апраўдвалася дзяўчынка, — а з іхняга «князя», калі такі можа быць у іхнім жыцці.

— Зараз мы гэта ўбачым, — сказаў Светазар,—пойдзем у госці да тутэйшых яхаў. Сядзем у машыну і ціхенька паедзем следам за імі.

Некаторы час яны ішлі па беразе рачулкі, а потым па каменнях перабіраліся на другі бераг. Падарожнікі хацелі павярнуць за імі, але раптам заўважылі пячоры і з гэтага боку. Па схіле гары, на рознай вышыні відаць былі шчыліны, адтуліны, ля якіх час-ад-часу паказваліся яхі, старыя, малыя.

— Ого! — усклікнула Святлана. — Тут іх цэлае паселішча. У параўнанні з жыллём тых яхаў гэта ўжо будзе горад.

Яны спыніліся ля аднаго з уваходаў, дзе ляжала маці з дзіцем. Убачыўшы гасцей, маці села на заднія ногі.

Тым часам і з іншых пячор пачалі збірацца сюды жыхары. Набліжаліся яны асцярожна, са страхам, і спыняліся за дзесятак крокаў ад машыны.

— Добры дзень, таварышы! — крыкнуў Светазар, вышаўшы з машыны. —Прывітанне вам з Зямлі! Не ведаеце? Ну, нічога, зараз пазнаёмімся.

Але яхі стаялі на месцы, напружана сачылі за кожным іх рухам і як быццам не выяўлялі жадання знаёміцца бліжэй. Калі Светазар паспрабаваў падыйсці да іх, яны падаліся назад.

Выручыла малое дзіця. Яно смела падышло да Святланы, а яна прысела і пачала гладзіць малое, а потым нават і на рукі ўзяла. Убачыўшы такую ласкавасць, яхі пасунуліся бліжэй, і твары іх зрабіліся больш ласкавымі. Але ніхто з іх не ўсміхнуўся.

— Значыцца, агню яшчэ не маюць, — зазначыла Святлана.

Раптам яхі затрывожыліся, са страхам сталі глядзець некуды, замармыталі паміж сабой — і зноў пачулася слова «бао».

— Зноў гэты «Бао»! — здзівіліся госці.

У гэты момант праз рачулку перабраліся яхі і накіраваліся ў гэты бок. Іх было ўжо чатыры. Усе жыхары пячор пахаваліся ў сваіх памяшканнях.

Падышоўшы да гасцей, яны выстраіліся ў шарэнгу, падняліся на заднія лапы, а потым зноў апусціліся.

— Э-э, ды яны кланяюцца нам! — крыкнуў Светазар. — Даўно-б гэтак. А то нейкую палітыку вядуць: «бао», «бао».

— Пачуўшы гэтае слова, яхі селі на заднія ногі і задаволена паўтарылі «бао, бао». Пры гэтым яны паварочваліся назад і паказвалі рукой у той бок, адкуль прышлі.

— Справа ясная! — сказаў Светазар сястры. — Яны запрашаюць нас да свайго «Бао». Што будзем рабіць?

— Не ведаю, — адказала яна.— Нешта не падабаюцца мне гэтыя малойчыкі. Нейкія несімпатычныя, зусім не такія, як гэтыя жыхары.

— Таму трэба пайсці паглядзець, што там такое.

— А ты ўпэўнены, што нічога дрэннага яны нам не зробяць?— спыталася сястра.

— Пакуль што мы бачым, што гэтыя яхі добры народ і дагаварыцца з імі можна.

Святлана паківала галавой і сказала:

— А мне здаецца, што гэтыя тыпы не належаць да таго добрага народа, аб якім ты гаворыш.

— Глупства гаворыш! — сурова сказаў брат. — Хіба ты не бачыш, што яны той-жа пароды, што яны свае для гэтых жыхароў?

— А чаму яны жывуць асобна? Чаму іх баяцца гэтыя жыхары? — пярэчыла Святлана.

— Усё-ж да гэтага часу не было ніякіх намёкаў на тое, каб яхі думалі нападаць на нас, — настойваў Светазар. — Мы-ж для іх вышэйшыя істоты, нібы богі, яны нас і паважаюць і баяцца. Мы павінны высветліць гэтую таемную справу.

— Я не супярэчу, — сказала нарэшце Святлана. — Я выказваю толькі свае ўражанні аб гэтых новых яхах.

Пакуль яны размаўлялі, тры яхі пайшлі ў пячоры і праз некаторы час выйшлі адтуль з жыхарамі, якія неахвотна ішлі наперадзе. Стваралася пэўнае ўражанне, што прышэльцы іх кудысьці гоняць. Прайшоўшы некалькі крокаў у бок мора, «канваіры» спыніліся, некалькі хвілін пастаялі на месцы і, пераканаўшыся, што тыя самі пайшлі далей, вярнуліся да чацвёртага. Потым усе яны зноў падняліся на заднія ногі і апусціліся на пярэднія.

— Бачыш, як пакорна яны нас просяць? —звярнуўся Светазар да сястры. — А ты чагосьці баішся. Хадзем. Не, лепш паедзем.

Праважатыя і зацікавіліся і ўстрывожыліся, калі ўбачылі, як госці садзіліся ў машыну, і, асабліва, як машына паехала.

Ехала яна зусім ціха, так, што праважатыя маглі ісці побач. Пад'ехалі да каменняў, праз якія трэба было перабірацца на той бок рэчкі. Адзін ях перайшоў на той бок, а іншыя чакалі, што будзе рабіць дзіўнае чырвонае стварэнне. Стварэнне лёгка пераскочыла цераз раку, яхі яшчэ больш здзівіліся. Далей двое ішлі наперадзе, увесь час азіраючыся, а двое ішлі побач.

— Яны, мусіць, думаюць, што вядуць нас пад канвоем да свайго Бао-Дая, — смяяўся Светазар.

— Бао, а не Бао-Дая, — паправіла Святлана.

— Усёроўна, яны, мусіць, аднолькавыя.

* Пачатак гл. у №№ 9, 10, 11 і 12 часопіса.

Надыходзіў вечар. Сонца зайшло за горы, і ў даліне адразу зрабілася змрочна. І раптам нашы падарожнікі ўбачылі наперадзе... водбліск агню!

— Глядзі, глядзі, агонь! — закрычалі разам і Светазар і Святлана. — Няўжо сапраўды агонь,— і іхняя машына, нібы сама апынулася каля ўваходу ў пячору, адкуль ішло святло. Канвойныя з усіх чатырох ног павінны былі даганяць яе.

### Светазар наводзіць парадак на Марсе

Падарожнікі вылезлі з машыны і спыніліся на парозе пячоры. Перад імі былі нібы сенцы, за якімі адкрывалася ўжо вялікае памяшканне. Там, у куце, і гарэў агонь, сапраўдны агонь. Гарэў ён не на зямлі, а ў сцяне, ніякага паліва пад ім не было.

— Справа ясная, — сказаў Светазар, — значыцца, са сцяны вылучаецца гаручы газ. Але хто яго запаліў?..

Засопшыся, падбеглі канвойныя і ўвайшлі ў сярэдзіну разам з гасцямі. Светазар і Святлана ўбачылі вялікую трохкутную пячору. Побач з агнём было паглыбленне ў сцяне. У ім на зямлі ляжаў вялікі камень, відаць, знарок сюды пакладзены. На гэтым камні важна сядзеў ях, той самы таемны «Бао». Ён быў таўсцейшы і дужэйшы за іншых яхаў, і нават нейкую важнасць можна было заўважыць. Па другі бок ад яго размясціліся яго «прыдворныя». Тут былі і такія самыя «салдаты», як тыя пасланцы, і больш далікатныя жанчыны з дзецьмі. За імі ў сцяне чарнеўся ўваход у далейшыя пячоры. Світа размясцілася абыяк: адны стаялі на чатырох нагах, другія ляжалі, некаторыя сядзелі. Але як толькі ўвайшлі госці, усе селі на заднія ногі. Па ўсім было відаць, што і сам Бао сеў на свой «трон» у той момант, калі падыйшлі госці.

Увайшоўшыя за імі чатыры яхі выстраіліся перад Бао, селі на заднія ногі, а затым апусціліся на пярэднія.

Светазар і Святлана нават збянтэжыліся. Што-ж гэта такое? Як сябе трымаць перад гэтымі дзіўнымі стварэннямі? Адкуль яны запазычылі гэты недарэчны цырыманіял? Гэта-ж на Зямлі ў дапатопныя часы так было. Няўжо яно без ніякага фантамабіля перадалося і на Марс?

Святлана глядзела на ўсё гэта, як на сон, і не ведала, як сябе трымаць. А Светазар раззлаваўся не на жарт. Але што яму было рабіць сярод такой колькасці несімпатычных яхаў?

А ў гэты момант прышлі тыя тры яхі, якіх пагналі на работу. Яны прышлі мокрыя. Вада з іх лілася цурком, а ў зубах яны трымалі па рыбіне. Яны падыйшлі да Бао і паклалі гэтую рыбу ля яго ног. Пасля таго яны хуценька пабеглі вон.

Бао падняў адну рыбіну і, нязграбна ступаючы на задніх нагах, падыйшоў да Светазара і сунуў яму рыбіну ў рот. Пры гэтым Бао... усміхаўся! Так, ён умеў смяяцца... Мала таго, яго світа таксама лагодна ўсміхалася.

Гэтыя першабытныя паразіты навучыліся смяяцца таму, што ў іх быў агонь, якім валодалі яны адны. Або, лепш сказаць, іхні важак Бао. Тыя, што жылі па той бок рачулкі, агню не ведалі. І смяяцца не ўмелі. Яны павінны былі працаваць на Бао і яго світу, лавіць яму рыбу, прыносіць кактусы. Бо яны баяліся «магутнага» Бао таму, што ён валодаў агнём. Праўда, Бао і яго прыхвасні, як відаць, яшчэ не ўмелі як след скарыстоўваць агонь, бо частавалі знатных гасцей сырой рыбай, але і без гэтага ўладар агню меў вялікую перавагу перад тымі, хто агню не меў.

Абураны Светазар выхапіў свой браўнінг і некалькі разоў стрэліў уверх. Грукат прывёў яхаў у такі жах, што ўсе яны, не выключаючы «самога» Бао, апусціліся на пярэднія ногі, ці рукі. А Светазар, не разважаючы ці зразумеюць яны яго ці не, грозна крыкнуў:

— Што гэта такое вы выдумалі? Не паспелі зрабіцца людзьмі, а ўжо строіце з сябе нейкіх паноў! А цябе, чучала, хто навучыў гэтым царскім цырымоніям? Працаваць не навучыўся, а сядзець «на троне» навучыўся. І прыгнятаць бедных людзей таксама нейкім чынам навучыўся. Дык вось мы цябе зараз навучым.

Ніхто не скажа, якія з гэтых слоў дайшлі да свядомасці «чучалы», але тон і агульны сэнс грознай прамовы, падмацаванай стрэламі, зрабіў уражанне на ўсіх. Яхі ўстрывожыліся, замітусіліся, некаторыя схаваліся ў далейшых пячорах. А Светазар пачаў здымаць фізкультурку.

— Ідзі на двор і чакай ля машыны, — шапнуў ён сястры.

— А ты? — спытала яна трывожна.

— Ідзі, ідзі, не бойся.

Святлана адышла, але спынілася ля ўваходу і пачала сачыць, што будзе далей.

Светазар зняў сваю кашулю, падбег да агню і... накрыў яго! Агонь, вядома, зараз-жа згас, а замест яго пачулася сіпенне і смурод газу.

Калі яны садзіліся ў машыну, у пячоры быў стогн і енк, нібы хто засыпаў жывыя істоты ў зямлю...

На дварэ зрабілася яшчэ цямней. Да захаду сонца заставалася гадзіна ці паўтары.

— Куды цяпер?—спытала Святлана. — Дадому?

— Не, не, мы не маем права так пакідаць справы. Трэба спачатку навесці тут парадак. Будзем спяшацца.

Машына апынулася на тым баку даліны, ля першых пячор. Многія яхі пачулі выццё на тым баку і выйшлі са сваіх памяшканняў. Яны трывожна прыслухоўваліся, баючыся бяды, а выццё там яшчэ болей узмацнялася: удушлівы газ прымусіў іх пакінуць пячору.

— Што-ж яны цяпер будуць рабіць? — прамовіў Светазар.

— Можа нападуць на гэтых, каб адабраць пячоры? — боязна сказала Святлана.

— Ад гэтых разбойнікаў усяго можна чакаць, — згадзіўся Светазар. — Трэба хутчэй арганізаваць абарону.

Тым часам вакол іх сабраліся бадай усе жыхары гэтых пячор. На гэты раз яны набліжаліся да гасцей без страху, даверліва. Госці ўвайшлі ў бліжэйшую пячору, а за імі і ўсе суседзі.

— Пашукай тут кавалак сухога кактуса, — сказаў Светазар сястры, а сам запаліў запалку, каб пасвяціць ёй.

Як ускрыкне ўвесь народ, як кінецца да выхаду! Светазар засмяяўся і крыкнуў:

— Куды вы? Назад!

Трэба думаць, што праз перадатчык паняцце слова «назад» дайшло да іх. Яны павярнулі назад. Праз момант запалка скончылася, зрабілася цёмна. Яхі спакойна падыйшлі бліжэй. Але Светазар зноў запаліў запалку, і яны зноў шарахнуліся ўбок. Нарэшце Святлана падыйшла з кактусам. Яны абодва расклалі маленькі касцёр. Яхі асцярожна адзін за адным сталі падыходзіць бліжэй і нарэшце ўселіся навокал на задніх нагах.

— Вельмі добра! — пахваліў Светазар. — Цяпер можна будзе весці практычныя заняткі з усімі вамі разам па ўсіх правілах навукі.

Нельга сказаць, каб поспехі былі лёгкія і хуткія. І на Марсе былі здольныя і няздольныя вучні. Трэба было вылучыць здольных і падрыхтаваць іх як мага хутчэй і лепей. То аднаго то другога выклікаў настаўнік да агню і паказваў, як трэба з ім абыходзіцца. Іншыя яхі хутка сцямілі, што для агню патрэбна «ежа», і з усіх канцоў пачалі цягаць паліва.

Навучанне ішло па пэўнай праграме. Спачатку трэба было наогул прывыкнуць да агню, не баяцца яго, нават і пасля таго, як ён «укусіць». Тут праявіла значныя педагагічныя здольнасці Святлана. Яна знарок дакраналася да кастра, ускрыквала, войкала, смяялася і зноў совала руку, каб дакрануцца да паліва.

Наступнай ступенню было — навучыцца падтрымліваць агонь. З аднаго боку, трэба было паказаць, што нельга класці паліва многа, бо «ў вашай краіне паліва мала», як тлумачыў «настаўнік», а з другога боку, трэба было, каб яны добра ўсвядомілі, што самая галоўная справа — не спусціць агонь. Дзеля гэтага Светазар не пашкадаваў лішнюю запалку і дазволіў кастру згаснуць. Тады і тут пачалося тое самае, што ў пячоры Бао. Пасля доўгай і лішняй прамовы, Светазар зноў запаліў касцёр.

Так працавалі, мусіць, гадзіны са дзве. На дварэ зрабілася зусім цёмна, падыхаў першы халадок, на тым баку даліны то заціхала, то ўзмацнялася выццё, а «вучні» нічога не заўважалі і не збіраліся разыходзіцца па дамах.

Затое і поспехі былі нядрэнныя. Яхі адчувалі сябе ля агню так, нібы з маленства мелі з ім справу. Твары іх рабіліся ўсё весялейшымі і весялейшымі, пакуль не пачалі ўсміхацца.

— Вось так і трэба! — з задавальненнем сказалі настаўнікі. — Цяпер можна сказаць, што вы скончылі клас жывёльны і перайшлі ў клас чалавечы.

Нарэшце, прышоў час, калі можна было прыступіць да трэцяй ступені навучання. Светазар устаў і ўрачыста пачаў:

— Дарагія таварышы! Цяпер мы падыходзім да самай важнай справы: нам трэба навучыцца абараняць сябе агнём. Вы павінны мець сваіх салдат, каб абараняцца ад Бао (ён паказаў рукой на ўваход). Чуеце, як яны там выюць? Калі яны ўбачаць агонь, то, напэўна, прыдуць сюды, каб адабраць яго, а вас выгнаць вон.

Светазар добра разумеў, што ад яго прамовы мала што дойдзе да слухачоў. Таму ён дзейнічаў, як на сцэне. Ён паказваў, як увойдзе Бао са сваімі слугамі, як ён схопіць з кастра галавешку, як пачне выганяць адсюль іх усіх. Для нагляднасці Светазар выбраў аднаго з слухачоў і пачаў тыкаць яго галавешкай. Нават прысмаліў яго трохі, небарака закрычаў і куляй вылецеў з пячоры.

Святлана звонка засмяялася, смяяўся і Светазар, але публіка не смяялася: яны баяліся, што і іх усіх гэткім чынам выганяць.

Тады Святлана прапанавала другі метадычны прыём:

— Яны, здаецца, не зразумелі цябе. Яны падумалі, што ты збіраешся ім зрабіць шкоду. Паштурхай тады мяне.

Светазар са смехам «выштурхнуў» яе на двор. А потым яны памяняліся месцамі, і Святлана ўжо яго выштурхала. Пасля таго і першы ях вярнуўся на сваё месца.

(Працяг у наступным нумары.)



А. РАБІГА

# МІЖ ПРЫВОЛЖСКІМІ РАЎНІНАМІ І СІБІРАМ

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

У Башкірыі, якая раскінулася між прыволжскімі раўнінамі і Сібірам, цудоўная прырода. Тут можна спаткаць рэдкія кантрасты: дробныя хмызнякі зменьваюць таежныя лясы, раўніны — сінія хрыбты уральскіх гор.

Да Вялікага Кастрычніка мой край называлі «паміраючым». На адгор'ях, у падэшвах Урала павольна замірала жыццё народа. У пачатку стагоддзя адзін з рускіх вучоных, Н. А. Крашэніннікаў, апісаў такі момант з натуры:

«...І нібы ад слова горнага чарадзея з шалашоў палезлі людзі. Я не мог надзівіцца: роўнадушныя, кастлявыя, з пергаментнай скурай, з мутным позіркам праваліўшыхся вачэй, быццам толькі што прачнуліся ад шматгадовага сну, яны павольна сланяліся з аднаго месца ў другое, грэючыся на сонцы, хісталіся, як гумазыя, і, здавалася, не было чуваць ні іх голасу, ні крокаў. Яны рухаліся, як здані! Гэта былі не людзі, — гэта былі цені жывых істот. Калі яны смяяліся, я ўздрыгваў: смяюцца мёртвыя».

Цяпер Башкірыю нельга параўнаць ні з тым, што было ў пачатку стагоддзя, ні з тым, што было дзесяць гадоў таму назад. Сённяшняя Савецкая Башкірыя дае хлеб і нафту, станкі і маторы, лес і жалезную руду, вугаль і шкло.

## ВАДА І НАФТА

З тае пары, як пачалі свідраваць зямлю, людзі не маглі абысціся без гліністага раствору. Рэцэпты яго складаліся ў лабараторыях, розумы вучоных былі заклапочаны паляпшэннем яго якасці. Гліністы раствор, ці рошчына, у час свідравання цыркулірзаў па шчыліне ўдоўж вялікай калоны труб, садзейнічаючы руху долата, выносячы на паверхню зямлі шлак, які з'яўляўся ў час свідравання.

Нафтавікі Башкірыі атрымалі новую тэхніку, амаль усюды перайшлі ад ротарнага свідравання да турбіннага, а састаў гліністага раствору не змяняўся. Кожная шчыліна патрабавала шмат тон раствору, які каштаваў дзесяткі тысяч рублёў.

І вось аднойчы, гэта было гады паўтара-два назад, малады буравы майстар Алаяраў вырашыў прасвідраваць шчыліну без гліністага раствору. Многіх здзівіла гэтае паведамленне. Адзін з геолагаў сказаў Алаяраву так:

— Без мяне можна прасвідраваць шчыліну, але без гліністага раствору нельга!

На гэта вялікі жартаўнік і заўзяты хлопец адказаў:

— Пастараюся прасвідраваць без гліністага раствору і... без вас.

Пасля таго, як Рычарду Алаяраву было дазволена пры свідраванні прымяніць замест гліністага раствору ваду, пачалося хваляванне не толькі ў яго брыгадзе, у буравой канторы, але і сярод усіх нафтавікоў Башкірыі. Чым закончыцца гэтая спроба?

А спроба дала выдатныя вынікі.

Яшчэ нядаўна, год шэсць-сем таму назад, хуткасць свідравання на промыслах «Другога Баку» не перавышала пяцісот-шасцісот метраў у месяц. Лепшыя майстры-наватары змагаліся за тое, каб пераадолець адну тысячу метраў за месяц. І вось Рычард Алаяраў, перайшоўшы на свідраванне пры дапамозе вады, дасягнуў небывалай хуткасці — ён наблізіўся да аднае тысячы двухсот метраў у месяц.

Брыгадзір камсамольска-маладзёжнай брыгады Рычард Алаяраў сваёй наватарскай прапановай адкрыў новую старонку ў гісторыі барацьбы за нафту. Зараз на аснове яго вопыту многія буравыя брыгады «Другога Баку» адмовіліся ад гліністага раствору і свідруюць шчыліны ў зямлі вадою. На кожнай шчыліне дасягаецца вялікая эканомія, павышаецца хуткасць свідравання, а гэта дае краіне тысячы тон «чорнага золата» звыш плана.

## МАРЫ І САПРАЎДНАСЦЬ

Чалавек без мары, як птушка без крылляў! Так гаворыць народная прымаўка.

Нашы мары звязаны з нашай будучыняй, з нашымі дарогамі перамогі, з нашым шчасцем. Калісьці мне давялося спаткацца з маладым аграномам Рахімам Ісламавым. Ён тады закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум. З якой марай ён крочыў у жыццё?

— Хачу паехаць у адзін з заходніх раёнаў Башкірыі і вырасціць сад, — казаў ён, не таячы сваёй запаветнай мары.

Для таго, каб зразумець значэнне яго слоў, трэба было помніць адну лічбу. Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Башкірыі мала было развіта садоўніцтва, уся плошча пад садамі ў той час складала штосьці каля 250 гектараў.

Па-сутнасці, малады агроном Ісламаў стаў піянерам у стварэнні садоў у Башкірыі. Дваццаць год таму назад на мяжы Савецкай Татарыі і Савецкай Башкірыі было ўпершыню пасаджана парэчак каля 1,5 га, чвэртка гектара маліны, 15 кустоў агрэсту.

З Рахімам Ісламавым мне давялося спаткацца ў гэтым годзе. Цяпер у калгасе імя Карла Маркса Бакалінскага раёна каля 25 гектараў саду. Ён дае каля 400 тысяч рублёў прыбытку ў год.

У летні поўдзень я застаў яго ля яблынь. Салдацкая шапка яго прыкрывала твар ад пякучых праменняў сонца.



**Уфа.**
Фото Л. Якубава.

— Зірніце на гэтую прыгажуню! — сказаў ён, паказваючы рукой. — Стройная, круглая... Гэта «Кітайка залатая».

Сапраўды, «Кітайка залатая» адрознівалася ад іншых яблынь сваім выглядам. Уся яна была, нібы букет кветак.

— Яна дае ўраджаі першая. Наша ўдарніца! Вось гэта — «Башкірскі прыгажун»! Далей — «Антонаўка-камянічка».

У трох садах калгаса мічурынцы разводзяць каля 180 гатункаў садовых культур.

Рахім Ісламаў не толькі чалавек з захапленнем, з марай, але і ўпарты змагар. Мне ўспомніўся канец мая. У той час нечакана знізілася тэмпература. Спецыяльна створаная «аварыйная брыгада» ў гэту ноч дзяжурыла ў калгасных садах. Вечарам падзьмуў поўночны вецер.

Двое сутак працягвалася барацьба з прыродай. Сад быў выратаваны. У 1954 годзе ён даў багаты ўраджай, за што калгас быў зацверджаны ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Той, хто быў на выстаўцы ў Маскве, мог пабачыць дасягненні калгаснага агранома Рахіма Ісламава і пакаштаваць плады яго працы.




**Помнік А. Матросаву ў г. Уфе.**

**Ордэна Леніна Уфімскі нафтаперапрацоўчы завод.** На здымку: (злева направа) **апаратар Ул. Кашын і старэйшы апаратар І. Федзін ля ўстаноўкі аднаго з цэхаў.**



СССР
Сёння
брацкіх
рэспублік

# Зіфа



Анвер БІКЧЭНТАЕЎ

Апавяданне

Мал. І. Пучынскага.

У ясны і вясёлы майскі поўдзень, калі ўсе жыхары аула Карасяй, не лічачы мноства гасцей з суседніх вёсак, прыезджых з горада, хлопцаў з гор, святкавалі сабантуй — веснавое свята плуга і будучага ўраджаю, — па вузенькай прасёлачнай дарожцы, якая пралегла між густых усходаў збажыны, нетаропкай, паважнай хадою ішла дзяўчына. Яна ішла да аула, пакідаючы гоман, які беспярастанку рос і мацнеў над месцам святкавання. Зірнуўшы на яе ўбор, на белую кароценькую сукенку ў сініх крапінках, на блакітны, абкіданы карункамі фартушок — такая ўжо тут мода, — на востраносыя з высокімі абцасамі боцікі, няцяжка было здагадацца, дзе яна была і адкуль ідзе. Не так ужо часта здараецца, каб дзяўчына без усялякай прычыны пакінула гулянне, а таму аб гэтым выпадку варта расказаць.

Па дарозе траляліся рэдкія падарожнікі, якія так альбо інакш спазніліся к пачатку свята. Пры сустрэчы з імі дзяўчына ўсміхалася і на прывітанні адказвала лёгкім кіўком галавы. Не было, здаецца, ніводнага чалавека, які не паглядзеў-бы на яе, ці не звярнуўся-б да яе з запытаннем. Жанчыны прыветліва махалі хусцінкамі, заклапочана пыталіся:

— Чаму так рана вяртаешся, Зіфа?

— Хіба табе не спадабалася свята?

Хоць у нашай мясцовасці ўсё гэта лічыцца знакам увагі, аднак па тым, як пыталіся жанчыны, лёгка было здагадацца, што яны кіруюцца не адной толькі ветлівасцю.

— Штосьці галава разбалелася, — неахвотна адказвала дзяўчына.

Жанчыны спачувальна, а іншыя і хітравата заглядвалі ёй у твар.

— Але, спякота, быццам з печы!

— Хусцінку накінула-б!

Мужчыны, вітаючыся з ёю, імкнуліся злавіць позірк яе вялікіх карых вачэй, глыбокіх і ясных. Карыстаючыся выпадкам, скажу, што ў Карасяі бурштынавым вачам аддавалі перавагу перад усімі астатнімі: сінімі, якія адлюстроўвалі блакіт нябёс, шэрымі, што ў іншых месцах, у спалучэнні са светлымі валасамі, зводзяць з розуму хлопцаў, чорнымі, глыбокімі і загадкавымі, услаўленымі многімі народамі ў сваіх песнях... Не, не кепскі густ у нашых мужчын! Так ужо вядзецца, позірк красуні прыемны кожнаму, няхай гэта юнак ці лядашчы дзед. Трэба адзначыць вартае ў нашых хлопцаў: яны супынялі дзяўчыну толькі дзеля таго, каб засведчыць сваю павагу. І калі-б яна захацела, яны з вялікай радасцю павярнулі-б назад, падвезлі-б яе да самага аула...

На развілцы дарог Зіфе спаткаўся Шаймурат. Ён пазніўся да пачатку сабантуя, і ўсё-ж, убачыўшы Зіфу, ён супыніў сваю сівую кабылу.

— Ці не памылілася ты напрамкам, Зіфа? — ветліва запытаўся ён.

— Не, Шаймурат-бабай.

— Тады я не разумею, чаму ты так спяшаешся дадому?

— Кепска сябе адчуваю, — хутка адказала Зіфа і, быццам спалохаўшыся, што стары зразумее яе няправільна, дадала: — Галава разбалелася...

— Бывай здарова, красуня! Калі-б я не быў на сядле, то падкінуў-бы цябе да самых варот.

— Дзякую, ногі маладыя...

Шаймурат выцяў абцасамі ботаў, і сівая кабылка рванулася наперад, узняўшы воблака пылу. «Відаць, нашы хлопцы не ўмеюць заўважаць прыгажосць, — мармытаў стары. — Каб мне дваццаць гадоў было, хіба я дазволіў-бы ёй пакінуць свята! Эх, хлопцы, хлопцы!..»

Не магла-ж Зіфа тлумачыць кожнаму свае перажыванні. Магчыма, яна ўцякла не ад людзей, а ад самой сябе!

Яшчэ з восені страціла яна звычайны спакой. Рабочным людзям і да гэтай пары здавалася, што з Зіфай нічога не адбылося. Яна засталася вясёлай, кплівай рагатухай. Хіба толькі тое, што падрасла на адну вясну. Па-ранейшаму весела звінеў яе голас на ферме, па-ранейшаму бойка і смела вяла яна за сабой даярак, па-ранейшаму даставалася ад яе няўдалым кавалерам.

З поўгода назад, калі-б хто асмеліўся ёй сказаць: «Тваё сэрца страціць спакой, ты пачнеш кожны дзень мяняць хусткі на галаве, адну ярчэй другой, каб звярнуў на цябе ўвагу юнак з верхняй вуліцы; ты будзеш чакаць яго позірку, навучышся адрозніваць яго голас сярод усіх іншых галасоў...», — калі-б ёй сказалі гэта, Зіфа пырснула-б ад смеху, ці, з гонарам павёўшы плячыма, сказала-б:

— Яшчэ не нарадзіліся такія хлопцы ні на верхняй, ні на ніжняй вуліцы, па якіх я стала-б сохнуць!

У душы яна лічыла, што ўздыхаць і пакутваць павінны хлопцы, а не яна, Зіфа...

І вось, у канцы восені, у аул з марскога флоту вярнуўся Буран Авельбаеў. З гэтага дня, здавалася, перамяніўся маленькі Карасяй. Куды-б ні пасылалі маладога марака працаваць — ці ў кузню, ці ў брыгаду, дзе-б ён ні быў, — усюды ён прыносіў з сабою вясёласць і смех. Вядома, што Буран апынуўся ў цэнтры ўвагі ўсіх дзяўчат Карасяя. Адным падабаліся яго шэрыя вочы, якія быццам хавалі ў сабе глыбокую таямніцу; другім — прыгожая, не такая, як ва ўсіх, паходка; трэцім — шчырая ўсмешка, якая заўсёды цудоўна свяцілася на яго губах. Ды хіба ён толькі моладзі падабаўся! Упартыя і хітрыя пажылыя дзядзькі гутарылі з ім, як роўныя з роўным. Нават лютая на язык, вечна чымсьці незадаволеная Хадзіча не адважвалася пры ім паказваць свой злосны характар. Адным словам, хлопец абваражыў усіх. Бываюць-жа такія людзі!

Але чаму Буран абыходзіў Зіфу? На гэта «чаму» Зіфа не знаходзіла адказу. Няўжо ў яго ёсць каханая?

Сёння раніцай Зіфа спаткала Бурана каля трыбуны, дзе сабраліся суддзі спартыўных спаборніцтваў і арганізатары гульняў. Быццам ненарокам, дзяўчына запытала:

— Можа вы, Буран, пакажаце нам з Магірай, як кіраваць новай лодкай, якую прыслалі з воднай станцыі?

Марак пацiснуў плячыма:

— З задавальненнем, але заняты на скачках...

Пазней Зіфа дакладна высветліла, што ён не ўдзельнічае на скачках.

Вялікім поспехам на свяце карыстаюцца спаборніцтвы бегуноў. Зіфа два гады ўзапар трымала

першынство на сто метраў. Заўважыўшы Бурана на старце, яна пацягнула за сабою сяброўку:

— Хадзем, Магіра!

— Ты-ж ведаеш, я ніколі не бегала...

— Я сама...

Але ў гэты дзень ёй не пашанцавала. Стометроўку перамагла незнаёмая дзяўчына па імені Фатыма, спрытная, дужая, выдатна натрэніраваная. І Зіфе здалося, што Буран усміхаецца задаволенай усмешкай, не адрываючы позірку ад яе суперніцы...

Зіфа не прывыкла да такой крыўды. Яна ўцякла са свята, здзівіўшы Магіру, якой ніяк не ўдалося ўтрымаць сваю сяброўку.

На беразе бруістага ручайка Зіфа зморана прысела: «Вось і сядзі тут замест таго, каб весяліцца сярод людзей!» Міжволі з вачэй у яе пасыпаліся слёзы. Але ў гэтым узросце сум бывае непрацяглым. Зіфа паглядзела на зялёныя ракіты, якія схіліліся над вадою, і перастала ўсхліпваць. Дзяўчыне раптам здалося, што ракіты з дакорам ківаюць галінкамі, быццам кажуць ёй: «Слабенькая ты і смешная!»

Яна адкінула доўгія косы, выцерла заплаканыя вочы. Як весела бурліць неўгамонны ручаёк, наперабой адзін перад адным стракочуць конікі ў траве, а адтуль, дзе адбываецца святкаванне, даносіцца далёкі і невыразны гул.

Ці варта плакаць у такі дзень маладой і бадзёрай дзяўчыне! Зіфа хуценька нахілілася над вадой, старанна спаласнула ў ручайку твар, асцерагаючыся намачыць валасы. Зірнуўшы ў маленькае круглае люстэрачка, якое насіла яна ў фартусе, Зіфа ўсміхнулася. Яна закінула косы, быццам вызваляючыся ад назойлівых думак, рашуча ўстала і шпаркімі крокамі накіравалася дадому. Ішла, не аглядваючыся, назад.

Яна не пайшла па дарозе, як хацела спачатку, а цераз поле і агароды, каб ухіліцца ад сустрэчы з людзьмі. Але чым бліжэй яна падыходзіла да дому, тым драбнейшымі і больш нерашучымі рабіліся яе крокі. Яе апаноўвалі сумненні, ці правільна зрабіла яна, што пакінула свята? Што яна адкажа маці?

Нечакана, злавіўшы на сабе чыйсьці пільны позірк, Зіфа крута павярнулася і ўгледзела за невысокім плотам, які разгароджваў два двары, настаўніка — старога Нігмата.

— А ты чаму дома?

Зіфа даўно ўжо не вучылася ў яго, але мела да яго глыбокую павагу. Стары настаўнік быў здагадлівы, ён не стаў патрабаваць у яе адказу і, быццам жадаючы перамяніць размову, запытаўся:

— Ці можна мне пасядзець крышку ў тваім садзе?

— Буду рада...

Настаўнік ішоў побач з ёю, цяжка абапіраючыся на яе руку.

— Юнацтва нагадвае ружжкветку: дзеля таго, каб не атрымаўся пустацвет, не бойся навальніц, глядзі насустрач парывам ветру гэтых грозных гадоў!.. — прагаварыў ён і запытаўся: — Помніш гэтыя радкі?

Зіфа шчыра прызналася:

— Забылася.

— Як гэта можна забыць паэта!

Настаўнік Нігмат шмат разоў у сваім жыцці, блукаючы па залатых капальнях Урала, сустракаўся са старым паэтам. Ён любіў успамінаць аб гэтых сустрэчах.

— Аднойчы паэт рашыў выступіць перад сваімі таварышамі па шахце, — сказаў ён задуменна. — Але многія яго адгаварвалі. «Рабочыя не захочуць цябе слухаць, яны роўнадушныя да вершаў», — казалі сытыя прыказчыкі. «Рабочыя адбылі пад зямлёй шаснаццаць гадзін, яны ледзь стаяць на нагах», — сцвярджалі другія. «Яны чакаюць палучку, яны думаюць не пра вершы, а мараць аб бутэльцы гарэлкі», — напаміналі трэція. «Будзь асцярожны, кульгавы чалавек, ты на прыкмеце ў жандараў», — палохалі баязліўцы. «Пабойся бога, свайго тварца!» — казаў мула Мухарам... Але паэт не ўмеў стаяць на каленях. Ён узняўся над натоўпам, паглядзеў навокал бясстрашным позіркам — і моцна, каб чулі не толькі людзі, але і далёкія горы, лясы — прагаварыў: «Не бойся навальніц, глядзі насустрач парывам ветру гэтых грозных гадоў!..» Ніхто, помню, не пайшоў і ніхто не перабіў паэта. Жанчыны плакалі, прыхінаючы да сваіх грудзей галодных дзетак, а мужчыны, апранутыя ў рызманы, худыя і змораныя, яшчэ шчыльней згуртаваліся навакол яго і прасілі:

— Яшчэ!

Колькі часу яна сядзіць пад яблыняй? Яна павінна ўстаць і пайсці. Але куды? Яна ўздрыгнула, пачуўшы словы настаўніка:

— Вярніся на гулянне, так сказаў-бы і сам паэт, калі-б ён быў зараз побач з намі. Твае гора — пясчынка ў вялікай пустыні.

Зіфа раптам павярнулася.

— Вы здагадваецеся... Вы ведаеце, чаму я...

Настаўнік паківаў галавой:

— Бадай што я памыляюся... ідзі!

Амаль усю дарогу яна бегла. І вось яна зноў сярод сваіх, на свяце. Магіра, убачыўшы яе, радасна смяецца:

— Я ведала, што ты вернешся?

Зіфа папярэдзіла:

— Нікому ні слова, што я ўцякала!

— Вядома, між намі.

Яны пахаджваюць сярод натоўпу вясёлых і радасных людзей. Яны ўсміхаюцца з жанчын, якія сабраліся каля вялікіх самавараў, з асілка, які нясе ў абдымку ўсе свае прызы: вышываныя ручнікі, новыя боты, адрэзы на касцюм і сукенкі...

У гэты дзень Зіфа яшчэ раз сустрэла Бурана. Ён стаяў у гурце, наглядаючы за Фатымай, якая танцавала пад гукі курая. Фатыму цяпер не пазнаць, так прыбралася... У вушах яе — алкі, на грудзях — старадаўнія манеты. На сацінавай чырвонай сукенцы тры аборкі. Маленькі стаячы каўнерык закрывае белую шыю; вузкія рукавы кафтана абкіданы яркай палоскай. На галаве ў яе маленькая шапачка з чорнага аксаміту. А на нагах — мяккія чырвоныя боцікі.

З Фатымай танцаваў Хайдар, трактарыст. Які ён прыгожы! З-пад жаляна выглядае крэмавая кашуля. Адвароты яго ботаў з прыгожай цясёмкай. Хайдар танцуе спрытна, то дробна прытопваючы, то ўзмахваючы рукой над сабою, быццам падганяючы жвавага скакуна...

Буран не адводзіць позірку ад Фатымы...

Раптам Зіфа прашаптала:

— Я пайду танцаваць!

Магіра сціснула яе локаць:

— Шалёная, пачакай!

Аднак цяжка ўтрымаць Зіфу, калі яна рашыла. Зіфа праціснулася на круг і гучна засмяялася:

— У нас не так танцуюць, а вось як! Эй, гарманіст!

Фатыма разгубілася: як была ў сярэдзіне натоўпу, так і застыла. Кураіст уступіў свае месца гарманісту. Хтосьці засмяяўся, хтосьці ахнуў... Людзі заўсёды заўзятыя. Пачуўшы выклік Зіфы, яны загудзелі, расступіліся, каб было прасторней. Зайграў гармонік. Зіфа пайшла па кругу гарна, прыгожа, ледзь схіліўшы галаву на бок, акінула смелымі бойкімі вачыма прысутных. Паўз яе паплылі знаёмыя і незнаёмыя аблічы. Фатыма адступілася... Усёй істотай Зіфы авалодала адзінае пачуццё — выклік гэтаму сіняму небу, Бурану, і незнаёмай дзяўчыне, Фатыме. Яна прайшла па кругу адзін раз, другі, і тады людзі, ахопленыя парывам, пачалі дружна адбіваць такт і з запалам закрычалі:

— Эйдзя, кызыкай, біеп кал! [1]

І ў гэты момант у круг уварваўся Буран. Ссунуўшы бесказырку на лоб, ён закружыў навокал Зіфы. Натоўп з задавальненнем падтрымаў і яго, кругом крычалі:

— Эйдзя, егет, біеп кал! [2]

— Бірэшма! [3]

[1] Ну, дзяўчына, станцуй!
[2] Ну, хлопча, станцуй!
[3] Не паддавайся!

Гарманіста змяніў кураіст. Прыплюшчыўшы вочы, ён выводзіў на сваёй вясёлай свісцёлцы бадзёры танец. Губы яго набіралі і выдыхалі струмень паветру, а доўгія гнуткія пальцы бегалі па ладах дудкі.

У гэтую хвіліну нельга была не згадзіцца з тым, хто верыць у чарадзейную сілу танцаў. Кажуць, танец можа расказаць больш, чым нават песня. Зіфа зухавата зірнула на Бурана, пайшла насустрач. Хлопец пачаў падскокваць, то беручыся ў бокі, то адкрываючы перад сабой абдымкі.

Здавалася, Зіфа смяецца над хлопцам. Яна зграбна паводзіла плячыма, у такт музыцы прытупвала нагой. Натоўп збіраўся. Буран, не вытрымаўшы шалёнага тэмпу ў танцы, супыніўся, цяжка пераводзячы дыханне, але радасна ўсміхаўся.

А дзяўчына ўсё кружылася, выклікаючы захапленне аднавяскоўцаў, хлопцаў з гор, дзяўчат з Карасяя, прыезджых людзей з горада, гасцей, сярод якіх шмат рускіх, татар, казахаў, чувашоў... Яна, абкружаная святочным натоўпам, з гонарам несла сваю стройную постаць. Кароценькае плацце з сінімі крапінкамі завіхрывалася ў танцы, паказваючы смуглыя калені, твар заружавеў, вочы радасна блішчэлі. Відаць было, што яна шчаслівая. Ёй здавалася, што ў шэрых вачах марака з'явіўся нейкі незнаёмы ёй агеньчык. Гэты агеньчык радуе яе і палохае. Яна цяпер не можа спыніцца на поўдарозе, ідзе ў новы круг, шчаслівая і прыгожая, а ў гэты час з вуснаў соцень людзей чуюцца падбадзёрваючыя галасы:

— Эйдзя, Зіфа, біеп кал!

— Бірэшма!

Пераклад з башкірскай мовы.



# ДЗЯЎЧЫНА З ВЁСКІ МАСТОК



**Лепшая даярка калгаса імя Сталіна камсамолка Варвара Казлова ад 14 замацаваных кароў вырасціла 14 цялят і надаіла за 12 месяцаў 1.560 літраў малака на кожную фуражную карову.**

Фото Р. Каралёва.

У мінуты роздуму, пошукаў і сумненняў вельмі важна шчырае, цёплае слова блізкага чалавека. Пэўна, каб маці не падтрымала Вару, яна пакінула-б работу на ферме. Ды і не толькі маці, а ўся камсамольская арганізацыя прыняла дзяўчыну ў сваю сям'ю.

— Ты, Варачка, не думай, што ў жыцці ўсё бывае гладка, як бальшак. Яшчэ і не такія цяжкасці сустрэцца могуць. А калі адзін раз адступіш, дык у другі раз гэтае адступленне стане прывычкай.

Падумала Вара над гэтымі словамі і вырашыла: праўду кажуць яе сябры. Так і засталася на ферме.

Зараз на ферме няма лепшай даяркі, чым Вара Казлова. Сёлета ад кожнай каровы яна надаіла па 1 560 літраў малака. За сем год работы Вара вырасціла і захавала 110 цялят. Цэлую ферму!

Вось чаму вучацца ў яе маладыя жывёлаводы. Вось чаму ўважліва слухаюць яе на камсамольскіх сходах: Вара абавязкова скажа нешта новае, цікавае.

— Вы лічыце, што ў нас ужо ўсё добра? Павялічылі надоі, узнялі прадукцыйнасць... Цяпер і адпачыць можам. Дык вось прапаную з'ездзіць да сваіх суседзяў — жывёлаводаў калгаса «Комінтэрн». Да іх-жа рукой падаць. Паглядзім, як у іх што робіцца, а потым гэтую размову прадоўжым.

Некаторыя думалі: што там можна ўбачыць у калгасе «Комінтэрн»?!. Але пайшлі.

Прынялі іх комінтэрнаўцы гасцінна. Лепшыя даяркі і свінаркі расказалі гасцям, як яны арганізавалі працу на фермах, як дабіваюцца ад каровы па тры тысячы літраў малака за год, як вырагадоўваюць ад кожнай свінаматкі па 18—20 парасят.

Па дарозе моладзь атакавала заатэхніка, сакратара камсамольскай арганізацыі Аляксея Тарасенку:

— От, каб у нас такія ўмовы стварылі, не давялося-б чырванець перад суседзямі. Нам-жа сорамна было! Лугі такія-ж, як і ў нас, каровы — таксама. А надоі?.. У іх вунь якія! У «Комінтэрне» як трэба клапоцяцца аб тым, каб зрабіць лягчэйшай працу жывёлаводаў, а ў нас толькі гавораць пра механізацыю. Трэба, каб старшыня наш, члены праўлення пабывалі ў суседзяў. Няхай сваімі вачыма пабачаць...

Бурным пасля гэтага быў камсамольскі сход. Папала і старшыні калгаса, і загадчыку жывёлагадоўчай фермы, і заатэхніку. І справы пачалі наладжвацца.

Калектыў маладых жывёлаводаў настойліва і ўпарта дабіваўся павышэння прадукцыйнасці жывёлы. Прыкметна павялічыліся надоі ў кароў, якіх даглядаюць даяркі-камсамолкі Праскоўя Мацькова, Ксеня Цішкоўская, Антаніна Кастрыца, Еўдакія Дзеручэнка... Вара Казлова і Праскоўя Мацькова былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі ЦК ЛКСМБ. Гэта натхніла дзяўчат на яшчэ лепшыя справы.

Але нечакана здарылася такое, на што Вара ніяк не спадзявалася. Адна з лепшых даярак Паліна Чалачова заявіла перад усімі:

— Не буду я больш працаваць на ферме. Вадаправод будавалі ды так і не закончылі, зноў у марозы і завеі вязі ваду ў бочках. Няхай сам старшыня возіць, а з мяне хопіць...

Вара і сама бачыла, што праўленне пакуль яшчэ вельмі марудна папраўляе справы, не клапоціцца пра лепшыя ўмовы працы, але хіба-ж так, як Паліна, рэагаваць на гэта? Не да твару гэта камсамольцы. І таму на камсамольскім сходзе, на якім абмяркоўваўся ўчынак Паліны Чалачовай, Вара сказала шчыра:

— Ты, Паліна, не паважаеш калектыў. Мне цяжка гаварыць табе пра гэта. Ты-ж мая сяброўка, не адзін год разам працавалі. А зараз, калі такія, як ты, асабліва патрэбны на ферме, ты пакідаеш калектыў.

Ёй хацелася напомніць пра Паўку Карчагіна, давесці Паліне, што аб недахопах на ферме ўжо стала вядома ў раёне, што хутка праўленне пачне працаваць па-іншаму, але раптам яна ўбачыла, як Паліна ўедліва ўсміхнулася. Тады Вара кінула ёй адно: «Дызерцір ты!»

— З цябе хопіць, кажаш, Паліна? — пачала Праскоўя Мацькова. — Табе цяжка! А нам хіба лёгка? Ты вінаваціш кіраўнікоў калгаса? Правільна! Яны адкажуць за непарадкі. Але пакідаць ферму, спалохаўшыся цяжкасцей, гэта ўжо нікуды не варта. Мы табе гэтага не можам дараваць.

Чалачова маўчала. Але назаўтра на работу яна не выйшла...

— Вось так і разбягуцца ўсе, — загаварылі некаторыя на ферме.

— Не разбягуцца, а яшчэ больш згуртуюцца, — адказала Вара.

... Праз дзень ці два да Аляксея Тарасенкі зайшла Тацяна Семянькова.

— Таварыш сакратар, —хвалюючыся загаварыла яна. — Я хачу ўступіць у камсамол. Вось мая заява... А таксама... прашу пасляць мяне на ферму замест Чалачовай. Працаваць буду не горш за другіх. Вось пабачыце....

— Правільна робіш, Таня. Вось ты аказалася сапраўднай камсамолкай, хоць у цябе яшчэ і не было білета.

Маладую даярку са шчырай душой прынялі жывёлаводы ў свой калектыў. Тацяна з першых дзён узялася працаваць старанна.

Неўзабаве прышла на ферму і Праскоўя Зароўская. Хто ведае, колькі наспявала ў яе гэтае рашэнне, але аднойчы раніцой яна прышла да загадчыка фермы і сказала:

— Вырашыла жывёлаводам стаць.

Мусіць, многім і неўздагад, што перш, чым наспела ў дзяўчат рашэнне пайсці на ферму, з імі гаварыла Вара Казлова. Але Вара аб гэтым нікому не расказвае.

... Напружанай працай і вучобай запоўнены будні маладых калгасных жывёлаводаў. Вара Казлова, Праскоўя Мацькова, Праскоўя Зароўская і іх сяброўкі, пераадольваючы цяжкасці, дапамагаючы адна другой у рабоце, агульнымі намаганнямі ўзнімаюць прадукцыйнасць грамадскай жывёлы.

**Калгас імя Сталіна**
**Магілёўскага раёна.**

**Юрый ПОЛЯК.**

**Заатэхвучоба ў калгасе імя Сталіна. Праводзіць заняткі заатэхнік Аляксей Тарасенка.**



# ДРУГІ ЎСЕСАЮЗНЫ З'ЕЗД САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Гэты снежаньскі, на дзіва прыгожы, ясны дзень надоўга застанецца ў памяці кожнага ўдзельніка Другога Усесаюзнага з'езду пісьменнікаў.

А першай гадзіне дня да Баравіцкіх і Троіцкіх брамаў Крэмля падыходзілі пісьменнікі, якія прыехалі ў Маскву з розных краёў і рэспублік совецкай зямлі.

Украінскі празаік Алесь Ганчар, таджыкскі паэт Мірсаід Міршакар, латышская пісьменніца Анна Саксе, беларускія паэты і пісьменнікі Пятро Глебка, Іван Шамякін, Янка Брыль, Піліп Пестрак, Іван Мележ, паэты Эстоніі І. Шмуул і Д. Варандзі — усе ахоплены ўрачыстасцю гэтага дня.

Лёгкія сняжынкі асыпаюцца з крэмлёўскіх ялін і пераліваюцца на сонцы рознымі колерамі.

Госці спыняюцца ля праслаўленай гарматы «Цар-пушка», з цікавасцю разглядаюць гіганцкі «Цар-колакал»...

Аружэйная палата, Гранавітая палата, ззяючая яркімі агнямі Георгіеўская зала.

І, нарэшце, мы ўваходзім у залу пасяджэнняў Вялікага Крэмлёўскага палаца.

Аўтар выдатнага рамана «Першыя радасці» Канстанцін Федзін беражліва падводзіць да стала прэзідыума самую старэйшую рускую пісьменніцу Ольгу Форш.

Ольга Форш гаворыць аб тым, што совецкая літаратура з'яўляецца палымяным барацьбітом за мір, за дружбу народаў.

Злой волі чорных сіл імперыялізма мы павінны супроцьпаставіць нашу волю, сілу людзей, якія вераць у светлую будучыню. Разам з намі ўся прагрэсіўная літаратура свету.

У адказ на гэтыя словы слаўнай рускай жанчыны гучаць доўга не змаўкаючыя воплескі. Горача апладыруюць: бразільскі пісьменнік Жоржы Амаду, чылійскі паэт Пабло Неруда, нямецкая пісьменніца Анна Зегерс, француз Луі Арагон, паляк Леон Кручкоўскі, пісьменніца вялікага кітайскага народа Дзін Лін і многія іншыя пісьменнікі зарубежных краін, якія прыехалі на з'езд.

З вялікай увагай слухаюць дэлегаты і госці выступленне сакратара ЦК КПСС тав. П. Н. Паспелава, які зачытвае тэкст прывітання Цэнтральнага Камітэта КПСС Другому Усесаюзнаму з'езду пісьменнікаў. Кожнае слова гэтага прывітання даходзіць да самага сэрца, як наказ, як баявы заклік нашай партыі да совецкіх пісьменнікаў, каб яны былі актыўнымі ўдзельнікамі стварэння комуністычнага грамадства, бачылі і ведалі нашых сучаснікаў, рэальных герояў — будаўнікоў комунізма.

У зале прысутнічаюць не толькі літаратары, але і тыя, для каго мы пішам — нашы чытачы і жывыя героі напісаных і яшчэ не напісаных кніг. Тут і рабочыя Маскоўскіх прадпрыемстваў, і Героі Совецкага Саюза, і студэнты Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Яны кроўна зацікаўлены ў з'яўленні новых, сапраўды мастацкіх твораў аб простых совецкіх людзях. Таму з асаблівай прыхільнасцю сустракаюць прысутныя словы з даклада А. А. Суркова пра совецкага чалавека, які чакае ад літаратуры больш гарачага, больш палымянага водгуку на пытанні, хвалюючыя яго, ён хоча бачыць пісьменніка не ў якасці летапісца, фіксуючага яго жыццё і барацьбу «заднім чыслом», а ў якасці таварыша і саратніка, у якасці разведчыка будучыні, які ўзбагачае будаўніка новымі ідэямі, адчыняе яму новыя гарызонты.

... У наступныя дні з'езд працягваў сваю работу ў Калоннай зале Дома Саюзаў.

Шаснаццаць сцягаў совецкіх рэспублік сустракаюць нас ля ўваходу ў фае; гэта цудоўны сімвал вялікай, непарушнай дружбы ўсіх атрадаў нашай совецкай літаратуры.

У фае фотакарэспандэнты «атакуюць» старэйшага паэта БССР Якуба Коласа, які імкнецца ўхіліцца ад фотаапаратаў. Але дзе там! Канстанцін Міхайлавіч толькі махнуў рукой і пакарыўся «волі лёсу»...

Сярод вялікай, шматнацыянальнай літаратуры Совецкага Саюза немалое месца займаюць творы беларускіх пісьменнікаў Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Янкі Брыля.

У вестыбюлі Калоннай залы на багацейшым кніжным рынку армянскі пісьменнік Вахтанг Ананян купляе кнігі свайго украінскага сябра Юрыя Збанацкага.

А вось беларускі паэт Пімен Панчанка «накінуўся» на новыя выданні совецкай паэзіі і народных казак. У яго руках досыць аб'ёмістая бібліятэчка, якую не так лёгка данесці да крэсла!

... Партэр, ложы і балкон Калоннай залы перапоўнены.

Пасля садаклада Барыса Палявога аб дзіцячай і юнацкай літаратуры садаклад аб совецкай паэзіі зрабіў Самед Вургун.

Змястоўным і яркім быў садаклад Канстанціна Сіманава аб совецкай прозе.

Разгараюцца гарачыя спрэчкі.

Выступаюць латышскі пісьменнік В. Лацiс, дзіцячы пісьменнік Л. Касіль, народны паэт БССР Якуб Колас, кіраўнік дэлегацыі кітайскіх пісьменнікаў Чжоу Ян, выдатныя рускія пісьменнікі Ілья Эрэнбург, Міхаіл Ісакоўскі, Сцяпан Шчыпачоў і многія іншыя.

У словах кожнага выступаючага гучыць сапраўдная гордасць за нашу цудоўную совецкую літаратуру і разам з тым — гаспадарскі клопат аб далейшым развіцці літаратуры, аб выхаванні маладых пісьменніцкіх кадраў.

«Перш чым стварыць вобразы станоўчых герояў, — гаварыў на з'ездзе Якуб Колас, — мы павінны гэтыя якасці выхоўваць у саміх сябе, і толькі тады народ можа нам паверыць... Глыбокае вывучэнне сапраўднасці — асноўная ўмова праўдзівага паказу жыцця».

Сур'ёзнае і дэталёвае абмеркаванне праблем совецкай драматургіі і совецкай літаратурнай крытыкі, пытанні мастацкіх перакладаў літаратур народаў СССР занялі немалое месца ў рабоце з'езда.

З дакладам аб сучаснай прагрэсіўнай літаратуры свету выступіў вядомы рускі паэт і грамадскі дзеяч Нікалай Ціханаў.

Другі Усесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў з'явіўся новым выражэннем адзінства і разнастайнасці совецкай літаратуры, яе ўзросшай грамадскай ролі ў жыцці.

Совецкая літаратура адстойвае ідэі гуманізма, міру і дружбы паміж народамі, яна заклікана ствараць мастацтва вялікіх думак і глыбокіх пачуццяў.

І кожны совецкі пісьменнік з новай сілай адчуў сваю вялікую адказнасць перад народам і Комуністычнай партыяй.

**г. Масква.**

**Эдзі АГНЯЦВЕТ.**



На верхнім здымку злева направа: **Пятрусь Броўка, Якуб Колас, Аляксандр Фадзееў, Агнія Барто, Валянцін Катаеў.**
На ніжнім здымку: **Сяргей Міхалкоў сярод піонераў.**



**САТЫРА І ГУМАР**




# КАГО НЕ БЫЛО НА НАВАГОДНІМ ВЕЧАРЫ

Тарас ЖЫГАЛКА

Мал. А. Волкава.

Недзе там, за сценамі залы заводскага Палаца культуры, чуецца музыка, песні, вясёлы, малады смех. А тут, дзе стаіць навагодняя ёлка, адзін маятнік гадзінніка мерна адлічвае апошнія мінуты старога года. Вось-вось вялікая стрэлка дагоніць маленькую, і тады адразу загарыцца рознакаляровымі агнямі ёлка, зайграе духавы аркестр, пасыплюцца бліскучыя блёсткі серпанціну, нібы тыя сняжынкі, што цярушацца на зямлю з неба. Тады адразу зробіцца шумна і весела. А пакуль што ў зале стаіць урачыстая цішыня. Толькі Вася Стопаклончыкаў нервуецца. Ён мітусіцца, охае, абураецца...

Па-першае, Васі даручана адказваць за вечар, і ўжо таму ён не можа сядзець, склаўшы рукі.

Па-другое, нехта выдумаў адмяніць у гэтым годзе запрашальныя білеты. Паспрабуй за ўсімі дагледзець!..

Па-трэцяе, на вечары меўся быць Пал Палыч Абух-Важнявецкі. А Васі дасканала вядома, што Пал Палыч заўсёды прыязджае са спазненнем, бо ён любіць паказваць сваю начальніцкую моц. Вася, які не раз адказваў за розныя культурныя мерапрыемствы, заўсёды адцягваў пачатак вечароў. Але што рабіць цяпер: Новы год не адтэрмінуеш!

Па-чацвёртае, на вечары адсутнічала некалькі чалавек, сталых наведвальнікаў палаца. Хоць вечар прайшоў-бы і без іх, але Пал Палыч мог пацікавіцца, чаму не ўсе ў зборы.

Вось чаму Вася Стопаклончыкаў падбягаў да кожнага і пытаўся: ну, чаму іх няма? На гэтае пытанне ніхто яму не мог адказаць. Між тым, прычыны былі самыя простыя.

Ціхон Зайчыкаў, доўганосы, з прышчаватым тварам і залізанымі на прабор валасамі хлапчына, быў страшэнна прымхлівым. Кожны свой крок Ціхон рабіў, толькі параіўшыся з лёсам. Вось і ў гэты вечар ён прыпомніў усе сны за апошні тыдзень. Сны нічога дрэннага не прадракалі. І ўсё-ж Ціхон апрануў пад чыстую кашулю і старэнькую, залапленую, у якой яму заўсёды шанцавала. Толькі пасля гэтага ён выйшаў на вуліцу. Быў цудоўны вечар. У паветры кружыліся сняжынкі, лёгкі марозік прыемна шчыпаў за вушы і нос. Ціхон пастаяў з хвіліну, потым палез у кішэню за партсігарам. І тут ён успомніў, што забыўся партсігар у старым пінжаку. У хлопца аж пот выступіў і ад дрэнных прадчуванняў пачала біць ліхаманка. Забыць дома рэч — гэта яшчэ нічым не пагражала, але забыць яе ў навагоднюю ноч — сапраўднае няшчасце.

«Калі я вярнуся, — разважаў Ціхон, — дык ісці на вечар няма чаго, бо ўсёроўна не пашанцуе. Калі-ж пайду без папярос, значыць, прыдзецца цэлы вечар страляць». Было-б гэта ў звычайную ноч, дык яшчэ не так страшна, а то-ж у навагоднюю: будзеш потым увесь год «страляць».

Задача была настолькі цяжкай, што Ціхон ледзь не заплакаў ад прыкрасці. На шчасце, яму ўспомнілася бабульчына парада: калі што-небудзь забудзеш дома, то можаш вярнуцца, але, ідучы назад, абыйдзі вакол хаты тры разы і тады нічога дрэннага не здарыцца.

Абыйшоўшы вакол хаты тры разы, Ціхон закурыў і са спакойным сэрцам пайшоў на вечар. Цяпер настрой у яго быў узнёслым, у вушшу ўжо стаялі мелодыі вальсаў, полек, факстротаў. Ён так быў заняты гэтым, што ледзь заўважыў, як з падваротні выскачыў чорны вялізны кот і даў драпака цераз вуліцу. Ціхон атарапеў, хоць супраць катоў у яго быў даўно правераны сродак. Ён тры разы павярнуўся цераз левае плячо, паўтараючы: «чур мяне, чур».

«Калі трэці раз будзе знак, — падумаў ён, — вярнуся. Мусіць, тады не лёс мне быць на гэтым вечары».

Радавала чалавека пустыннасць вуліц, бо інакш ці мала каго можна сустрэць, ды чаго добрага яшчэ з дрэнным вокам. Да трамвайнага прыпынку заставалася прайсці ўсяго адзін квартал. Зайчыкаў нават уздыхнуў з палёгкай, як раптам насустрач яму з двара выйшла дзяўчынка з пустым вядром. З пустым вядром у навагоднюю ноч! Ну, хіба-ж гэта не знак, не перасцярога! Ціхон плюнуў і вярнуўся дадому.



Панас Сівуха сабраўся на вечар яшчэ завідна. Ісці яму не надта хацелася: Сівуха не танцаваў, не спяваў, не любіў гульняў. Адно, што цягнула яго, — навагодняя закуска і выпіўка. Да таго-ж Вася Стопаклончыкаў наказаў: «Не падвядзі, абавязкова прыходзь і цвярозым».

Цяпер, ідучы па вуліцы, Панас з жахам уяўляў сабе, як перад адкрыццём вечара Стопаклончыкаў прадаставіць слова Пал Палычу, а той закоціць поўгадзінную прамову пра вайну, пра атамную зброю, пра электрыфікацыю і цалінныя землі, а потым пачнуцца танцы...

«Хоць-бы той дурань, — думаў ён пра Васю, — здагадаўся які выпівон загадзя арганізаваць. На сухую які ў чорта вечар?! Дык, мусіць, не здагадаецца. Трэба самому...»

Сівуха рашуча збочыў у цёмны завулак і адразу натрапіў на цэлы гарадок ларкоў, палатак і маленькіх магазінаў. Усе яны ў гэты час не пуставалі.

— Сто пяцьдзесят для спробы, — папрасіў ён прадаўшчыцу.

— Забаранілі, — сумна адказала тая і тут-жа параіла: — Вазьміце ў магазіне чацвёрку і прыходзьце сюды, ёсць свежае піва.

У магазіне чацвёрак не было. Панас Сівуха ўжо хацеў ісці, як да яго падышоў грамадзянін з малінавым носам.

— Давай да мяне ў кампаньёны. Аднаму поўлітра мнагавата.

Пасля двухсот пяцідзесяці грамаў усё пачало здавацца прыемным, асабліва грамадзянін з малінавым носам. Сівуха абняў яго і выйшаў на прастор шырокай вуліцы. Праз крокаў дваццаць малінавы нос запрапанаваў:

— Давай яшчэ адну бутэльку раздавім, для прапорцыі.

Зайшлі, выпілі. Позна ўначы, калі ўсе ларкі ўжо былі зачынены, Сівуха апынуўся пад плотам. Ляжаў і гразіў пальцам вышчарбленаму месяцу:

— Смяешся, шэльма. Пачакай, я да цябе дабяруся!..

Захар Здабудзька раптам выявіў: на навагодні вечар у яго няма білета: «Прывык заўсёды ў апошнюю гадзіну ўсё даставаць, і вось маеш! Можна зусім на вечар не трапіць. Добра яшчэ, што ёсць многа знаёмых».

Захар кінуўся даставаць білеты. Забег да аднаго, да другога, трэцяга знаёмага, званіў па тэлефону, але, відаць, нікога ўжо не было дома. Застаўся толькі адзін Ціт Міргайла. Гэты ў любое свята быў дома. Жыў ён у чорта на кулічыках, на далёкай ускраіне горада. Але калі хочаш пайсці на вечар ды калі яшчэ на гэты вечар прыдзе каханая дзяўчына, адлегласць не мае ніякага значэння.

Захар узяў таксі і праз нейкую поўгадзіну быў у асабняку Міргайлы.

— Білет?.. Адзін?.. Два?.. — дзелавіта пытаўся Ціт.

— Два. Мне і Ліпачцы.

— Можна. Усё можна. Нельга толькі сесці на падлогу і ногі звесіць.

— Не скромнічай, — лісліва ўсміхнуўся Захар. — Ты і гэта можаш.

— Дамовімся. З цябе, як з друга, я многа не вазьму: за білет па бутэльцы мускату.

— Дзе-ж я яго дастану? — спалохаўся Захар.



— Адрасок я табе дам. Ітак, пачнем дзейнічаць.

Міргайла некуды пазваніў, нешта некаму паабяцаў і ўрачыста прамовіў: «Ёсць! Таксі тут? Едзем!»

Ехаць прышлося праз увесь горад. Недзе на поўдарозе іх сустрэў Новы год, але ў ліхаманцы здабывання білетаў яны не заўважылі яго прыходу. Калі Ціт урučыў два ціснёных золатам білеты, было ўжо далёка за поўнач...

— Пачакайце, пачакайце, — сказжа, напэўна, чытач. — Якія білеты? Уваход-жа на вечар быў вольны. Як мог Міргайла дастаць неіснуючыя білеты?

Здзіўляцца, аднак, не трэба. Захар Здабудзька належыць да тых людзей, якія сумленным парадкам нічога не набываюць, а ўсё — «па блату», «па знаёмству», «па пратэкцыі». На вечары ён прыходзіць у якасці асабістага сябра знамянітасці, яго шыкозна сустракаюць, праводзяць на лепшае месца. Калі-б Захар прайшоў нейкім іншым чынам, вечар для яго быў-бы сапсаваны. Ды і не ўяўляе сабе Захар Здабудзька, што на вечар можа быць вольны ўваход.

Ну, а як Міргайла дастаў неіснуючыя білеты? І тут не трэба



здзіўляцца, бо ён можа дастаць усё: «Пабеду», халадзільнік, чорнабурку, бастон на касцюм, казкі Шахерэзады, птушынае малако, аўстралійскага собаля...

Бедная Лялечка Капцілкіна. Яна спіць, а стрэлка няўмольна рухаецца да дванаццаці. Лялечка не ведае, што яе чакае, калі яна прачнецца. Хутчэй прачынайся, Лялечка, хутчэй, інакш не быць табе на вечары і ніхто не ўбачыць у гэтую навагоднюю ноч твайго пухленькага, выпешчанага тварыку, тваіх пафарбаваных пальчыкаў і моднай, самай моднай завіўкі.

Лялечка даўно прачнулася, але яна не спяшаецца. Чаго спяшацца? Мама адпрасуе плацце, вычысціць чаравікі, праверыць ці цэлыя капронавыя панчохі, выпыліць паліто. Праўда, у Лялечкі таксама многа работы. Колькі часу трэба, каб з «густам» пафарбаваць вусны! А паставіць на шчацэ мушку, маленькую, сімпатычную... О, на гэта трэба час! Альбо зрабіць з валасоў на скронях завіткі па назве «пакахай мяне»! Не кожнай модніцы гэта ўдаецца.

Лялечка толькі робіць выгляд, што спіць, бо чакае, што вось зараз падыйдзе мама і пачне будзіць яе. Як прыемна тады ўяўляць сябе маленькай, нежыцца, брыкаць ножкамі, пакуль мама не прынясе шакаладку.

У зале гадзіннік б'е адзінаццаць раз, Лялечка ўстрывожана, а маці ўсё не ідзе.

— Мама, мама! — крычыць яна.

У кватэры стаіць цішыня. Лялечка падхопліваецца з ложка, запальвае святло. На сталэ запіска.

«Маму забрала я. Хоць адзін раз няхай сустрэне Новы год. Збярэшся сама.

Цёця Паліна».

Лялечка ледзь не страціла прытомнасць, але ўспомніла, што ўсёроўна ніхто не падасць вады, і пачала шукаць плацце. Яно было невыпрасаванае, і Лялечка ў роспачы спынілася сярод пакоя, намагалася прыгадаць, як прасавала бялізну маці: «Здаецца, нешта падсцілала на стол».

Лялечка ўзяла пуховую коўдру, разаслала яе на стале, а зверху прыкрыла абрусам. Потым ўключыла штэпсель ад праса ў разетку з-пад радыёкропкі і чакала, пакуль нагрэецца. Хвілін дзесяць прайшло, а прас быў халодны, як лёд.

«Сапсаваўся», — з жахам падумала Лялечка і ўспомніла, што ў іх недзе ёсць прас, які грэецца ад вуголляў. Адшукала яго, паставіла на коўдру, насыпала вугольлі з пліты і ў чаканні, пакуль прас разагрэецца, падышла да люстэрка падмалёўваць свой твар.

Таварышы пажарнікі, будзьце гатовы! Хутка ў вас зазвініць трывожны званок.

Ніхто не ўбачыць прыгожага тварыку Лялечкі на навагоднім вечары.

А Вася Стопаклончыкаў між тым прадаўжае хвалявацца. Ужо засталося тры мінуты старога года. Ужо музыканты занялі свае месцы. Ужо...

— Пятровіч, — крычыць Вася швейцару, апранутаму дзедам Марозам, — Пятровіч, ідзі сустракаць Пал Палыча, ён хвілін праз дзесяць прыдзе!

— Ну, не, — смяецца Пятровіч. — Як-жа сустракаць Новы год без дзеда Мароза. Мне месца сярод людзей.




— Тады я сам сустрэну! — Вася накідвае паліто, нахлабучвае шапку і бяжыць на вуліцу.

Пятровіч моўчкі глядзіць яму ўслед, дакорліва ківае галавой, потым вялізным ключом замыкае дзверы палаца.

— Нашы ўсе дома, — гаворыць ён. — А без гэтых, што не прышлі, паветра чысцей. Сёння яны выпадкова не прышлі, а праз год-два іх і зусім не будзе.

Пятровіч ідзе ў залу. Куранты б'юць дванаццаць раз. Іграе музыка, ёлка ўспыхвае каляровымі агнямі. І так весела, так хораша сёння на вечары...

## КАРЦІНА АБ ШЧАСЛІВЫМ ДЗЯЦІНСТВЕ

«Зіма прышла» — так называецца новая карціна Валерыі Жоўтак, падрыхтаваная маладым мастаком да дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве.

Дзяўчына паказвае сваёй сяброўцы новыя канькі-хакейкі, якія ёй купілі бацькі. Мінулагодні́я свае снягуркі яна аддала малодшаму брату. Хлапчук пакінуў на падлозе ўсе свае цацкі і, трымаючы за спіной канёк, не зводзіць позірку з новых хакеяк, якія прымярае сястра. Колькі ў гэтым позірку дзіцячай зайздрасці і замілавання!

Малады мастак любіць дзяцей, добра адчувае іх псіхалогію, імкнецца перадаць іх настроі, думкі і пачуцці.

Валерыя Канстанцінаўна Жоўтак нарадзілася ў горадзе Жлобіне ў сям'і чыгуначніка. З маленства палюбіла яна жывапіс, захапляючыся прыгажосцю і маляўнічасцю роднай прыроды.

Пасля паспяховай вучобы ў Віцебскім мастацкім вучылішчы В. Жоўтак працавала мастакомдэкаратарам у Беларускім тэатры оперы і балета. Праца ў тэатры пад кіраўніцтвам такога майстра, як народны мастак БССР лаурэат Сталінскай прэміі С. Нікалаеў, мела вялікае значэнне для творчага росту В. Жоўтак, бо ўзбагачала яе веды, набытыя ў мастацкім вучылішчы, яшчэ больш збліжала яе з прыродай, выхоўвала навыкі пейзажыста.

У 1950 годзе В. Жоўтак прадставіла на рэспубліканскую мастацкую выстаўку некалькі сваіх пейзажаў, якія вылучаліся непасрэднасцю ўспрыняцця роднай прыроды і звярнулі на сябе ўвагу гледачоў.

Малады мастак пачаў цікавіцца і іншымі жанрамі, не абмяжоўваючыся толькі пейзажным жывапісам.

На рэспубліканскую мастацкую выстаўку 1951 года побач са сваімі пейзажамі «Восень», «Пад вечар» і «Яхты» В. Жоўтак прадставіла таксама карціну «Першае верасня». У ёй яна вельмі трапна перадала ўсхваляваны, прыўзняты настрой дзяцей, якія ўпершыню сабраліся ў школу, і заклапочанасць маці, што выпраўляе разам з імі сваю дачку. Пазней гэтая карціна экспанавалася на Усесаюзнай мастацкай выстаўцы ў Маскве.

Аднойчы В. Жоўтак прысутнічала ў Палацы піянераў пры сустрэчы мінскіх піянераў з дзецьмі Кітая. Гэтая сустрэча надзвычай усхвалявала маладога мастака, зрабіла на яго вялікае ўражанне. Так само жыццё падказала тэму для новай карціны.

Амаль поўгода падрыхтоўвала В. Жоўтак эскізы і эцюды для гэтага твора. Яна наведвала школы, прысутнічала на піянерскіх сходах, не раз запрашала дзяцей да сябе ў майстэрню. Толькі пасля гэтага з'явілася карціна «Кітайскія дзеці ў гасцях у мінскіх піянераў». Карціна сімвалізуе дружбу двух вялікіх народаў. На ёй адлюстраваны той урачысты момант, калі савецкія піянеры дораць дарагім кітайскім гасцям рушнік і піянерскі гальштук.

Гэты твор экспанаваўся на чацвёртым Сусветным фестывалі моладзі ў Бухарэсце.

Шчаслівае і радаснае дзяцінства савецкай моладзі натхняе мастака на новую творчую працу.

Цяпер В. Жоўтак піша карціну аб радасным адпачынку калгаснай моладзі.



**Высока развіта ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы прыкладное мастацтва. У Маскве, у Дзяржаўным музеі выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна, адкрыта выстаўка прыкладнога мастацтва Кітайскай Народнай Рэспублікі. Адкрыў выстаўку Надзвычайны і Поўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў СССР Чжан Вэнь-цянь.**

На здымку: **наведвальнікі аглядаюць выстаўку.**

Фото Э. Еўзерыхіна.

## ШАШКІ

**пад рэдакцыяй майстра спорту М. ШАВЕЛЯ**

**І. Казлоў**



**С. Ліознаў**

**Ход чорных.**

Гэтая пазіцыя атрымалася ў часе сеанса адначасовай ігры. Майстар С. Ліознаў, які іграў белымі, ахвяраваў шашку для стварэння камбінацыйных магчымасцей.

Ён разлічваў на ход чорных
1. ... g7 — f6 (або e7 — f6)
правесці камбінацыю
2. d2 — e3! f4 : d2
3. b2 — a3 d4 : b2
4. a3 : e3 a5 : c3
5. e1 — d2 c3 : g3
6. h2 : b8 і выігрывае.

А калі
1. ... c7 — d6 (або e7 — d6),
дык
2. h2 — g3! f4 : h2
3. f2 — e3! d4 : f2
4. e1 : g3 h2 : f4
5. d2 — e3 f4 : d2
6. c3 : e1 a5 : c3
7. b2 : h8 і выігрывае.

Але чорныя разгледзелі ўсе пагрозы белых і ў атрымаўшайся пазіцыі самі правялі камбінацыю.

Прапануем чытачам знайсці гэтую камбінацыю.

## Красворд

**Склаў Н. Скараход.**

**Па гарызанталі:** 1. Калонія Францыі ў Афрыцы. 3. Зборнік геаграфічных карт. 5. Сталіца Чэхаславакіі. 7. Спартыўная ігра. 9. Лячэбная ўстанова. 13. Рака ў Францыі. 14. Дрэва. 15. Прыток ракі Рэйн. 16. Горад у Італіі. 17. Частка кіналенты. 20. Балотная трава. 22. Рака ў Румыніі. 23. Мера даўжыні. 25. Мінерал. 27. Сталіца Партугаліі. 28. Частка свету. 29. Метал. 33. Войскі, закінутыя ў тыл працўніка з самалётаў. 35. Драпежнік. 36. Персанаж з п'есы К. Трэнёва «Любоў Яравая». 37. Мэбля. 40. Аповесць Н. В. Гогаля. 41. Аповесць Міхася Лынькова. 43. Марскі рак. 44. Музычны інструмент. 46. Сродак перасоўвання. 48. Чараўнік ва ўсходніх і поўночных народаў. 49. Галоўная артэрыя. 50. Горад на Украіне. 51. Персанаж п'есы К. Крапівы «Партызаны».

**Па вертыкалі:** 1. Плата, якая выдаецца перад пачаткам працы. 2. Паход у глыбокі тыл ворага. 3. Рака ў СССР. 4. Крыніца цеплыні і святла. 5. Горад у БССР. 6. Адтуліна, неабходная для асвятлення памяшкання. 7. Прамысловы горад РСФСР. 8. Састаўная частка алкагольных напіткаў. 10. Дзень тыдня. 11. Сельскагаспадарчая спецыяльнасць. 12. Група вершаваных радкоў. 18. Агнястрэльная зброя. 19. Справа, за якую змагаюцца сумленныя людзі свету. 21. Футбольны тэрмін. 22. Пояс, у якім захоўваюцца патроны. 24. Прадукт пераапрацоўкі каменнага вугалю. 26. Месца жыхарства. 30. Прыбор для вымярэння марскіх глыбінь. 31. Поўвостраў у Амерыцы. 32. Нацыянальнасць. 33. Аповесць Я. Коласа. 34. Мера плошчы зямлі. 35. Герой аповесці Я. Коласа. 38. Вадкасць, якая ўжываецца для растварэння фарбаў. 39. Адміністратыўная адзінка. 42. Месца прыёму і выдачы грошай. 43. Насякомае. 45. Горад у Эстоніі. 46. Мера вагі. 47. Беларускі паэт.

**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, змешчаны ў № 12 за 1954 год.**

**Па гарызанталі:** 3. Рэклама. 6. Штабель. 7. Клініка. 9. Аксіёма. 12. Кантата. 14. Сімбіёз. 15. Рататар. 18. Мазаіка. 19. Дэкаэдр. 22. Каталаг. 24. Какарда. 26. Інтрыга. 30. Кларнет. 31. Паланез. 34. Стратэг. 35. Экстэрн. 36. Эстрада. 37. Лаурэат.

**Па вертыкалі:** 1. Рэфлекс. 2. Эмблема. 4. Наватар. 5. Сістэма. 8. Гігіена. 10. Анафара. 11. Ліманад. 13. Антракт. 14. Стартэр. 16. Кабатаж. 17. Дамкрат. 20. Камітэт. 21. Канатоп. 23. Акрабат. 25. Дыфтонг. 27. Рэферат. 28. Анапест. 29. Флагман. 32. Штурвал. 33. Рэастат.



## У НУМАРЫ



На першай старонцы вокладкі: **«Зіма прышла».** З карціны маладога мастака Валерыі Жоўтак.

На чацвёртай старонцы вокладкі: **«З новым годам».** Фотаэцюд А. Дзітлава.


**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 68. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі—93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Здадзена ў набор 10.XII.54 г. Падпісана да друку 29.XII.54 г. Фармат паперы $70 \times 108^{1}/_{8}$. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20 000 экз.

Цана 2 руб.

АТ 04281. Заказ 894.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Адрамантуем!

Я ўжо бачу зіхценне яго агнёў, бляск паркету. Я чую гукі аркестра.

Адрамантуем!

Чаго вам нехапае? Клуба?

Будзьце ўпэўнены.

# Зачараванае кола




Я бязмежна рады, што на маю долю выпала шчасце клапаціцца аб вас.

Але на гэта трэба роздум і час.

Ах, моладзь, моладзь!..

Мінула тры гады? Ну, што гэта за тэрмін?!

Здымаць мяне? Не зразумець мяне?! Ой, моладзь, моладзь!

Фотажарт заслужанага артыста БССР Б. Янпольскага і фотакарэспандэнта А. Дзітлава.